# Беларускі Піонэр



№ 2

У сьнежкі — Малюнак вучня Саматыя.

# НЕЧАКАНАСЬЦЬ.

Міколка паглядзеў на асьвечаныя вароты, уздыхнуў і пашоў за вугал.

Ззаду чуваць быў моцны шум. Міколка пашоў туды, дзе канчаўся завод. З небясьпекай, аглядаючыся па баках, ён шпарка стаў разграбаць рукамі сьнег. Калі ўтварылася невялічкая сьнежная ямка, ён піхнуў у плот, і ціха адвалілася невялічкая дошчачка.

— Гатова!—буркнуў Міколка і з шкадаваньнем падумаў, што так рабіць прыходзіцца кожны дзень. Толькі змрок пачне ахінаць горад, яго вабіць да ярка асьвечанага катка. Ня маючы грошай на ўваход, ён цішком пралазіць праз дзірку ў плоце. Не адну шчыкеціну ён адарваў, і ведае, што яму не паздаровіцца, калі хто ўбачыць. Але што-ж? Хвіліна напружанасьці і хваляваньня — і ён апыніцца на радасным ледзяным полі.

Міколка занадта любіў канькі. Ён ня мог і дня пражыць, каб ня быць на катку. А тут прыходзіцца цішком лезьці пад плот і, дачакаўшыся зручнай хвіліны, абтрэсьціся ад сьнегу, і коўзацца па абледзянелай паверхні круга.

Сягоньня нейкі дрэнны настрой ахапіў яго. Захапіўшыся манькамі, ён зусім забыўся пра атрад.



Вось збоку праімчалася дачка бакалейшчыка Антонава, пакруціліся ў скоку яе брат з нейкай дзяўчынай, праехалі ў санях укручаныя ў кажухох незнаёмыя людзі. Ад гэтага яшчэ цяжэй станавілася на душы.

Вечар скончыўся-б як і звычайна, але ў гэты час пачуўся адчайны піск і ў момант усе пабеглі кудысьці ў бок.

— Ой,—надрываючыся, крычала дзяўчына:—ой! ой! укралі грошы!

На катку замятусіліся. Міколка на хвіліну спыніўся, прыслухоўваючыся да крыку, і парашыў ужо йсьці дамоў, як раптам, задыхаўшыся, да яго падбег незнаёмец. Хутка ён нешта сунуў у Міколкавы рукі і зьнік.

Міколка аслупянеў. Яго вывеў з гэткага становішча дзікі крык: „Трымайце!"—І ў гэты момант натоўп кінуўся да Міколкі.

—- Злодзей!—з усіх сіл крыкнула дзяўчынка,—злодзей! Ой! Трымайце!

Зараз-жа зьявіўся міліцыянэр. Строга кінуўшы ў натоўп „разыйдзіся", ён зьвярнуўся да дрыжачага піонэра.

— Пойдзем.

За Міколку паручыўся атрад, ён зараз-жа быў выпушчаны. Але гэта здарэньне так усхвалявала яго, што ён потым зьлёг у пасьцель.

Тры дні Міколка быў бяз памяці.

Варочаючыся ў гарачцы, хворы заліваўся сьлязьмі і крычаў:

— Я ня злодзей... я хацеў коўзацца, лез праз плот, але я ня злодзей... Плот... У мяне ня было грошай.

* * *

Праз два тыдні Міколка ачуняў і ў першы вечар, вышаўшы з дому, ён удыхнуў марознае паветра і парашыў:

„Больш туды ні нагой!"

Ён зашагаў у атрад, але, к вялікаму зьдзіўленьню, там нікога ня было. Тады Міколка сумна пашоў назад. Успамінаючы мінулы выпадак, няпрыкметна апыніўся ў асьвечаных варотах катка,—хутчэй адсюль! мільганула ў яго думках і ён паімчаўся ў бок.

— Куды?—раптам пачуўся знаёмы голас.

— Міколка, куды ты?

Збоку падбег Петрык і, сьмеючыся, пацягнуў яго да катка.

— Не пайду!—супярэчыў Міколка:—Не, не!

— Цягні яго, хлопцы, ён яшчэ нічога ня ведае. Ён яшчэ думае, што сюды ня можна. Кругом рагаталі знаёмыя хлопцы.

— Адарваўся ад атраду і ня ведае, што мы гаворым.

Калі, нічога ня ведаўшага Міколку ўцягнулі на каток, ён доўга ня мог прысьці ў сябе.

Пабочных асоб ня было. Зьвінелі галасы, але ўжо другія— знаёмыя, блізкія. Не разумеючы, ён усё яшчэ дзівіўся з усяго гэтага, але вось вочы яго натрапілі на яркую шыльду, прыбітую ля праходу. Ён адразу зразумеў, чаму так горача шаптаў яму на вуха Петрык. На шыльдзе было ясна.

**КАТОК—АДПАЧЫНАК ПІОНЭРАЎ І КОМСАМОЛЬЦАЎ 2-га РАЁНУ**

У гэты вечар у першы раз з надзвычайнай асалодай, размахваючы рукамі, ляцеў Міколка, як вецер. З ухмылкай пралятаў ён ля вугла плоту, дзе яшчэ чарнела знаёмая яму сьнежная яма.

**М. Лінскі.**

## ЗЬМЕСТ

Год выданьня 5-ты.

Да змаганьня за справу працоўных—будзь гатоў!

УМОВЫ ПАДПІСКІ:
На 1 м-ц — р. 20 к.
„ 3 м-ца — р. 60 к.
„ 6 ц-аў 1 р. 20 к.

# Беларускі Піонэр

АДРАС РЭДАКЦЫІ:
МЕНСК,
Комсамольская, 25.

ДВУХТЫДНЁВАЯ ДЗІЦЯЧАЯ ЧАСОПІСЬ, ОРГАН ЦК ЛКСМБ І НАРКАМАСЬВЕТЫ БССР

№ 2 ооооооооо СТУДЗЕНЬ ооооооооо 1929 г.

## НАШ ЛЕПШЫ НАСТАЎНІК І ПАВАДЫР— ПІОНЭРСКІ ДРУК.

Кожную гадзіну, кожны дзень перад атрадамі паўстае заўсёды старое і заўсёды новае пытаньне: „*як лепш наладзіць сваю працу*? Для гэтай мэты ломяць свае, часта слабыя, ненапрактыкаваныя галовы павадыры, ломяць пер'і за пісаньнем розных інструкцый, паказаньняў.

„А воз і дагэтуль на месцы“,— з жалем скардзіцца на зрух працы атрадаў шмат хто з павадыроў і дзяткораў.

Пытаньні часта ставяцца ў ячэйках комсамолу; там, бязумоўна, вельмі прыхільна абмяркоўваюць яго, напішуць вострую, папіонэрску вытрыманую рэзолюцыю, і на гэтым абмяжуюцца. Хіба што дзе мо' дадуць „адстаўку“ павадыру за дрэннае кіраўніцтва. А павадыр, сапраўды, не заслужвае такой пахвалы. Усім вядома, што праца з дзяцьмі патрабуе пэўнага нахілу і ўменьня. Такое ўменьне і нахіл набываецца толькі ў знарочыстых школах і шляхам практыкі. Аб гэтым яскрава сьведчыць настаўніцкая праца.

Ясна, што мы настаўнікаў-павадыроў, мусіць, ня скора будзем мець: для гэтага трэба шмат патраціць сродкаў; у цяперашні-ж час бурнага будаўніцтва ўсе сродкі ідуць на апошняе, і дзяржава ня здолее адпускаць іх у большай меры на піонэрскі рух. Ясна і тое, што работа піонэрскіх атрадаў павінна паляпшацца, а адначасна і пашырацца на ўсё большыя і большыя колы дзяцей.

З гэтага ўсяго выплывае вось што: мы павінны самі „ўласнымі рукамі“ паляпшаць сваю работу. Першым і бадай найлепшым сродкам такога паляпшэньня будзе добры абмен вопытам працы.

„Даруйце!—скажаце вы,—мы-ж пра гэта даўно ведаем і колькі можна карыстаемся гэтым сродкам“.

— Правільна! Бясспрэчна!

Аднак да гэтай правільнасьці мы хочам высунуць адну дробную заўвагу. Справа ў тым, што мы не выкарыстоўваем таго, што ўсім нам даступна—*мы не выкарыстоўваем друку*. Яго альбо зусім у атрадзе няма, альбо ён зьяўляецца звычайным гасьцём У гэтым ёсьць памылка шмат якіх атрадаў. З другога боку, у нашай цэнтральнай газэце „Пионеркая Правда“ і ў нашай беларускай часопісі часта друкуюцца матар'ялы ня тыя, якія патрэбны: у друку адбіваюцца формы работы ўсім вядомыя. Гэта значыцца, што друк толькі адбівае ўсім вядомы вопыт працы. Дзяткоры пішуць для таго, *каб іх зьмясьцілі*, а не для таго, каб яго *допіс даваў якуюнебудзь карысьць для іншых*. Адгэтуль і тая памылка ў нашых допісах, што яны пішуць не пра тое, як *адбылася справа якаянебудзь*, а толькі *паведамляюць*, што такая-то *справа адбылася*. У допісах найчасьцей гаворыцца, што такі-то атрад наладзіў добра работу з неорганізаванымі, неорганізаваныя часткова ўцягнуты ў атрад і працуюць там актыўна... І зусім дарэмна мы будзем шукаць адказу на вельмі важнае для нас пытаньне: *якім чынам. пры дапамозе якіх сродкаў была гэтая работа праведзгна*. Калі-б допіс быў напісаны якраз ў такой форме, дык ён заўсёды прынёс-бы карысьць і для другіх атрадаў.




А ці мала ёсьць у рабоце нашых паасобных атрадаў новага, сьвежага, цікавага! Гэтыя сьвежыя формы ўзьнікаюць у атрадах, праводзяцца і потым марна прападаюць; пра іх не напісалі ў газэту ці часопісь, яны загінулі для іншых атрадаў.

Дзяткорам і піонэрпрацаўнікам трэба як мага больш аддаць увагі абмену вопытам праз друк. Мы заклікаем пісаць нам пра ўсе вашы лепшыя дасягненьні, пісаць больш падрабязна, пісаць пра тое, як і што вы робіце. І разам з гэтым мы ва ўсю шырыню ставім пытаньне аб тым, каб нашы павадыры сур'ёзна зацікавіліся піонэрскім друкам. Найчасьцей яны лічаць, што піонэры самі і павінны чытаць сваю газэту ці часопісь. Кожны атрад, калі ён будзе сачыць рэгулярна і акуратна за друкам, заўсёды зможа знаходзіць цікавыя формы працы і ўжываць іх у сваім атрадзе. Піонэрскі друк павінен стаць цэнтрам ажыўленьня нашай работы. Самым лепшым настаўнікам і кіраўнікам у працы атрадаў няхай будзе толькі добрая газэта і часопісь!

А. Ч.



# МАРЫЛЬКА





Апавяданьне А. Якімовіча.

Малюнкі М. Філіпоўскага.

Сіраце прыкіпіць і ў жываце.
(*Народная прымаўка*).

I.

Яна, гэта кволая, худзенькая дзяўчынка, толькі што пачала ачуньваць. Праз цэлых тры тыдні сьляпіцаю лезла да яе жудасная сьмерць. Моцна і цяжка хварэла дзяўчынка на тыфус...

„Хай-бы яно ўжо лепш памерці... Бо завошта такая пакута“... часта ў гарачцы шаптала яна. А спрасонку ў гэты час у яе больш чымся калі з вуснаў ня зыходзіла слова „мама“, „матулька“...

І не таму такой няшчаснай была гэта сухарлявая, пакорлівая дзяўчынка, што хварэла. Не. Іншае гора моцна ашчарэпілася за яе сваімі кіпцямі. Яго, гора гэтага, цяжка пазбыцца. Сілы няма ў малой прагнаць яго ад сябе, далёка прагнаць, у лясы цёмныя, у пушчы дрымучыя. І моцы няма ў малой перамагчы яго, гэта гора, здалець уласнымі, тоненькімі касьцістымі ручкамі, уласным малым яшчэ розумам...

Хіба правінілася дзяўчо завошта перад неміласэрным жыцьцём, што гэтае жыцьцё аддало яе на чорныя пакуты лютай Антолі? Такія думкі, як лёгкія матылькі, мітусяцца ва ўсёй прыніжанай істоце дзяўчынкі.

А калі яна ўспамінае мінулае—перад ёй усплываюць то жудасна-палахлівыя, то салодка-шчасьлівыя цені... Гэтыя ўяўныя цені ніяк ня сходзяцца, а ўсё неяк разьбягаюцца, уцякаюць кудысьці. Самотная пустэча цёмных мараў засланяе былое жыцьцё.

Толькі, нібы аганькі, з цемры думак блішчаць яскрава і цудоўна прадстаўленьні мілых і дарагіх вобразаў бацькоў...

* * *

За вокнамі праз запэцканыя паколатыя шыбы ўсьміхаецца вясеньні дзень. То там, то сям тонка і высока выводзяць сваё „кукурэку“ пеўні. Раямі сыплюцца пад стрэхі і назад імклівыя круціхвосты-вераб'і. Для іх самая пара гнязьдзіцца. Наперабой, праз сварку, займаюць яны свае ціхія, маленькія шчылінкі ў закотах і пад кроквамі. Старэнна аплятаюць зручныя мясьцінкі—будуюць хаты. А іншы раз сярод вераб'ёў і ластаўка ўтышчыцца; яна таксама шукае сабе месца для гнязда.

Вясна ў поўным росквіце. Усюды веянь ад пахучай квяцістай садавіны, ад цеплаты зямельнай.

Пад вакном з густам упрыгожыўся кветкамі бэз. Сваім мяккім пахам ён праз шчыліны вокан напаўняе хату. Бэзавы пах востра шчыкоча нутро і ажыўляе млявае цела.

Да хворай даносяцца шчасьлівыя, вясёлыя галасы дзяцей. Яна ня можа стрываць і шэпча, намагаючыся ўстаць:

— Я-б мо' расхадзілася...

Але ў гэты час штосьці моцна стукае ў лоб, сьвет туманіцца і яна кідаецца назад, у запечнае лахмоцьце.

— Гультаіць захацела, прытварака ты, вот што, а ня дзіця людзкае!—бурчыць з качаргешніку зьвераватая, старая кабеціна.

Марыльцы не ўпяршыню чуць гэта. Але цяпер словы прыёмнай маткі больш пякучыя. Твар яе горш загараецца хваравітаю чырваньню. „Добра табе казаць так, самой не адляжаўшы. Не шкадуеш ты ні кроплі мяне, ганяеш толькі дзень і ноч за спажывай. Хіба такім горкім павінна быць скарынка мякіннага хлеба?“—думае яна і пакорліва шэпча сухімі, парэпанымі губамі:

— Я ўжо ня хворая, цётачка... Устану...

Антоля дасьціпная да ўсялякае работы і праз меру скнарная кабета. Для яе сьвету мала. Сама згорбленая, зрэбная кашуля, з паўгода нямытая, блішчыць ад бруду. Твар Антолі наўзьдзіў паморшчаны, вочы вострыя, пракідкія. Здаецца, усё да кроплі бачыць яна нават у нутры чалавека сваімі вачыма. Нос вялікаваты, не да твару, распухлы. Спадніца і каптур старасьвецкага вырабу—мо' спадчына якой матчынай маткі? Ад таго, што гэтыя ўбёры такія старыя, яны рассыпаліся, расплыліся, як гразь; толькі суравыя стракачы-ніткі склейваюць паасобныя лахмоцьці.

Антоля ня любіць, калі хто ўпікне ёй скупасьцю. Гора тады ўпікальніку! Ніхто ў вёсцы ня мог лепш лаяцца за Антолю. Цэлыя пакаленьні спрадвеку тварылі гэты від красамоўства і цалкам перадалі ў спадчыну яго Антолі.

Яна цяпер займалася звычайнай перасушкай. Гэты род работы карыстаўся асаблівай пашанай у Антолі. Сотні розных мяшэчкаў скрыначак, стаўбунчыкаў вісяць і стаяць па ўсёй згорбленай, як і сама Антоля, і падпёртай сукаватымі, неабгладжанымі подпіркамі, хаце.

— Дармаедзіна такая... Чаго-ж прычакаемся мы на старасьць ад цябе? Каб ты лягла ды ня ўстала! Каб цябе каламі паднімалі!..

Антоля лаялася і клялася часамі і ад таго, што гэта быў адзіны мажлівы для яе і даступны спосаб выяўленьня сваёй творчай актыўнасьці. Яна не сябравала з другімі бабамі, бо кожны абыходзіў яе, злую і задзірлівую. Хатка іх стаяла на вотшыбе, з ганькі ад вёскі. Муж Антолі чалавек надзвычай спакойны, негаваркі. Калі яму хочацца гутарыць, ён курыць люльку за люлькай, пэхкае, сапе цяжка ў нос.

І Марылька, як здань, павольна і нехаця ўзьнімаецца з рызманоў. Яе цяперашні хворы выгляд вельмі падобны да ўсяго гэтага ламачча, якое так багата расьсеяна па ўсёй хаце.

У гэты час у сенцах раздаўся глухі стук. Антоля кінула мяшэчак з бурнэльнымі зёлкамі і адчыніла дзьверы.

— Ай-ай!..—накрычала яна...—А ты ўсё ляжыш, гультаіна,—адвярнула яна ў хату галаву,—гэта-ж сьвіньня скалечыла мяне...

Калі Марылька ўстала, яна нястрывала, каб не заглянуць перш усяго ў сенцы. Такі і сапраўды там пагаспадарыла чорная сьвіньня. На вялікім кубле стаяла пляскатая сявенька. У сявеньцы было завадзкое семя. Гэтае семя і высыпала сьвіньня. Хоць урон яно і невялікі—сабраць можна,—а ад гвалту цяпер не адкараскаешся.

Антоля са сьлязамі на вачох, клянучы і сьвіньню, і дзяўчыну, і ўсю сваю горкую долю, поўзала па зямлі і згортвала далонямі семя.

— Навошта вам гэтулькі ўсяго? Можна было-б ачысьціць сенцы. Тады сьвіньні ня было-б чаго скінуць,—кажа дзяўчынка Антолі. Ёй ужо даўно агоркла гэтая няпрыстойнасьць, згушчанасьць рознай непатрэбшчыны.—Павярнуцца недзе,—дадае яна.

— Каб цябе ў яму завярнулі, і ты на маё дабро квапішся. Рада-б, каб я голая мо' хадзіла?—адвярнула яна на дзяўчынку свае суровыя, халодныя вочы.

Да такой скупасьці Антоля прывыкла. У гэтым яна знайшла вялікую асалоду жыцьця. Гэта дыямэнт для яе, гэта ўсё багацьцё. За век напхнуліся, аж выпіраюць, кублы палатна. Пабуцьвелі, а шмат якія і пагнілі скруткі палацён. Бязумоўна, кожны такі збуцьвелы скрутак палатна аплаканы, перасушаны. Але ад часу нікуды не ўцячэш, не схаваешся: час нішчыць яе багацьце, трухлявіць яго. Хоць колькі розных заклінаньняў, шэптаў нашаптала над кублами яна. Нездарма яе першаю знахаркаю ў вёсцы лічаць. Розныя зёлкі за пяцьдзесят і болей гадоў вісяць у яе хатцы пад стольлю. У гэтых зёлках, па думцы Антолі, нямала сілы ад усяго: і ад хвароб, і ад прываротаў, і наваротаў, і ад кленічаў усялякіх...

Калі сабралі семя, Марылька ўзялася за сякач.

— Сячы сьвіньні, а то дзьверы выламіць ды зноў бяды на маю галаву наробіць!—загадала Антоля дзяўчыне.

— Добра, цётачка. Я-ж не лянуюся...

— Языком ты не лянуешся. а колькі здужае—робіць. Ёй-жа толькі яшчэ дванаццаць год. А мо' і яна была-б такой пакаёўкай, каб паказалі ёй, што гэта за штука такая. І яна ня стрымлівае, каб не запытацца:

— А што гэта за пакаёўка?

— Гэта ўсё роўна як сталая дзеўка, служанка ў паноў—вот што гэта!—з ноткай ганарлівасьці ўжо адказвае Антоля.

— Дык вот вы якімі былі! Вы, мусіць, прыгажэйшымі і дужэйшымі за ўсіх былі?

Гэта апошняе трохі зьмякчае вастрату напружанасьці Антолі. Яе нібы хваляць. Да яе асаблівая павага.

— Я ў два разы большая была за цябе, вось такая была,—махнула яна рукой у паветры ля галавы.

— А вот і няпраўда: вы і цяпер ня будзеце ў два разы большай...

Такая, ня зусім далікатная, заўвага зноў сапсавала ўсю справу,—угнявіла Антолю. Сапраўды-ж яно так: Антоля салгала. На гэтае лганьнё ёй не змаўчалі, а асьмеліліся ўпікнуць, балюча ўкалоць яе. Дзе то відана? Ды каб хто? Дзіцянё гэтае, што пад плотам некалі валялася. Яна-ж, Антоля, самая найлепшая кабета ў сьвеце,—яна зьлітавалася і прыняла сірату пасьля сьмерці яе маткі. Антоля, бязумоўна, зусім не дадумалася да таго, каб



*Напалоханыя аж да сьмерці, яны кінуліся бегчы.*

Я будучы тваіх год панскай пакаёўкай была. А ты што варта?

А мо' і сапраўды гэта дзяўчынка нічога ня варта? Мо' яна не такая, як усе, працаўніца нікому непатрэбная, ні навошта ня здатная. Хоць, здаецца, і стараецца з усіх сваіх сіл, пяліцца, як тая мурашка. Чужыя дзеці ў такія гады, здаецца, і таго ня варты ў рабоце, што варта яна. Шмат ня здужае—косьці яшчэ не ўрасьлі,

мысьліць інакш: яна прыняла сірату, бо сама бязьдзетуха, рабіць няма каму, зямлі-ж нямала ў гаспадарцы...

— Я цябе зараз вот—сячы! Адгырквацца яшчэ будзеш!— штурханула Антоля дзяўчынку, каб спагнаць ёй.

Сячэ Марылька. Не сячэцца цеста. Цяжка, ой, як цяжка месіць бульбу сякач! Пара гнілая і сьмярдзючая кружыцца над ражкай, дыхаць трудна. Млявасьць распаўзаецца па ўсім целе. Але мацуецца малая работніца. Яна перамагае сваю хваробу. Трэба працаваць, а яшчэ больш трэба сірацe...

Сіраце—сірочая доля.
(*Народная прымаўка*).

II.

На дварэ сьцямнела. Сьцішылася ўсё ў прыродзе. З поўдню ўсплываюць густыя, панурыя хмары. Яны што дальш, то ўсё больш і больш шырацца, разьнімаюць свае пярыстыя крыльлі. Парнасьцю, як з печы, веяла ад зямлі і ад паветра.

— Хоць цёпла, а лапці адзень!— загадала Антоля дзяўчаці.

Марылька схамянулася. Яна адразу скеміла, у чым справа. Значыцца, недзе валачыся супроць ночы? Мо' нават і ў далеч,—хто можа ведаць, што ўздумалася старой скупяндзі? А ня хочацца малой—нацягалася за дзень у полі за кароўмі. Цяпер-бы паспаць соладка, пакуль зарумяніцца ўсход і трэба будзе выганяць на раніцу.

Ногі дзяўчыны парэпаліся ў полі ад гразі і сонца, распухлі, нібы іх скусалі восы. І ёй страх цяпер адзяваць лапці—муляць, рэзаць будуць аборамі і каравымі анучамі.

— Мо' без лапцей—цёпла на дварэ...—хоча адгаварыцца яна.

— Але-ж, без лапцей: каб потым сьлед пазналі...

— Хіба каб пазналі,—з дакорам шэпатам адказала Марылька.

— Вот ня дурыся, ягамосьць такая: трэба, дык трэба. Некалі, бывала, не такою была я ў тваe гады...

А калі сабраліся, ціха зашасталі засаўкі, і дзьве цёмныя постаці праглынуліся прасторамі ночы.

Спачатку пашлэпалі на засьценак, потым выпаўзьлі на простую дарогу к шляхтам.

Кругом наўздзіў ціха. На іх дарозе нібы злучаліся ў вышыні шляхам дзьве зусім адменныя паловы неба: адна паўночная, блісучая зорамі, другая паўднёвая, затуманеная хмарамі. Павольна, спаважна наплывала паўднёвая скалістая высь неба на паўночную, адваёўваючы зорку за зоркай. У аддаленьні зрэдку мільгацелі кволыя бліскавіцы.

— Дождж будзе. Толькі-б невялікі,—гэта добра.

— Чаму добра?—шэпча дзяўчынка, борзьдзенька сьцябаючы ўсьлед за гарбуняй.

— Змые ўсё...

— Куды мы?

Антоля ў такі час трохі мяняецца характарам. Вусьцішнасьць, ноч робяць сваю справу. Яна мякчэе і ласкавей размаўляе з дзіцем. Усё—чалавек жывы,— апора, хоць і неспадзейная. А мо' прачыналася ў гэтай сухой кабеціны мацярынскае каханьне? Яна-ж ніколі не раскідала яго на дзяцей, а ўсё зьбірала ўвесь свой век, ледзяніла ў сваім сэрцы.



*Марылька пачула кароценькую гаворку Антолі з мужыком...*

— Мы, дзеткі,—казала яна, калі падыходзілі блізка да гумён,—ненадоўга.

Яшчэ больш страшней адчувала сябе і Антоля, калі перад імі, нібы жывая істота, з цемры ночы вырасла першая засьцянкоўская будыніна. Дзесьці ў другім канцы з выгану пачулася аддаленае яхканьне сабакі. Гэта там начлежнікі. Падарожніцы раптам спыніліся. Прыслухаліся. Сабак у самым засьценку, мусіць, няма, бо ўжо аказаліся-б. Агню ні ў кога. Толькі маланка часьцей сьвеціць...

— Толькі—ні гуку, бо заб'ю тады.

— У мяне кашаль будзе, ці вытрымаю я?—шэпча дзяўчо.

Вось яны і ля гумнаў. Гумна ў шляхтаў даўжэзныя, бо шляхты-арандатары — самыя багатыя людзі ў гэтай мясцовасьці.

Сэрца ў абодвых тахкаюць усё мацней і мацней.

— Хапай палотны!

І абое, моцна сапучы, кінуліся пад стрэху, дзе сохлі позныя палотны. Іх сёньня ўдзень асачыў мужык Антолі, як хадзіў у арэшнік, каб пашукаць добрых дубцоў на барану.

Губы ў дзяўчыны перасохлі. Ёй горла дзярэ кашаль... Яна хоча сказаць—„скарэй бяжэм, хопіць!“—ды ня можа: голас анямеў...

— Згортвай як найбольш!— загадвае ёй Антоля, а сама сьпяшаецца класьці скруткі ў пасьцілку. Ужо ліхаманка трасе Антолю: калоціцца ўся, але круціць.

І дзяўчынка ўсё-ж ня стрывала: спачатку памаленьку, потым і моцна кашлянула.

Гук падхапіў вецер і шпурнуў у бок хат... Але-ж ён борзда і зьнік у шуме ветру, бо забарабаніў буйны дождж.

Напалоханыя аж да сьмерці кашлем, яны кінуліся бегчы: Антоля з пасьцілкай за плячыма, Марылька з ахапкам палацён перад сабою.

— Я цябе заб'ю, я цябе заб'ю, згубіш ты мяне...—злосна шэпча Антоля і тузае за плячо дзяўчынку, якая ніяк ня справіцца за ёю, а ўсё больш і больш млее ад сваёй вязанкі і ад такога напружанага перажываньня. Дух занімае ёй. Кінуцца каменем вобземлю хочацца.

У нядужых руках валачэ, як мурашка, скарб для папаўненьня кублоў Антолі. Што-ж зробіш— мышы мо' аддзякуюць.

Антоля і сама крэхча, напінаецца з усіх сіл. Цяжка. Вецер усё большае, дождж буйнее.

У такія хвіліны ў сьвятле маланак і ў бурным ветры яшчэ большы страх ахапляе начных вандроўніц. Усё здаецца, што вось засьвеціць маланка і з чорнай бушуючай цемры вынырне жывы чалавек—гаспадар накрадзеных палацён. Кожны камень пры маланцы палохае Антолю.

Яна хрысьціцца, нешта мармыча і ўсё тузае дзяўчынку.

— Ідзі, каб ты з галавы вышла!..

Ёй здаецца, што, калі яна лаецца, страх тады зьмяншаецца. Шмат бадзёрыць яе свой уласны голас, які дашчэнту зьліваецца з шумам дажджу.

Жмутак дзяўчынкі ўсё цяжэў, а яна слабела. Потым зьбіліся з дарогі, і хоцьісьці было ня вельмі доўга—трое ганок якіх,— а па грудах і палявых межах у такую пару далёка ня ўвойдзеш,— шагу цяжка ступіць.

Марылька падае. Пяліцца ўстаць, але ня можа... Антоля шалее, кідае свой клунак, варушыць яе... Потым, калі пераканалася, што нічога з гэтага ня будзе, хапае клунак і йдзе адна...

...Доўга пачакаўшы толькі, вярнулася Антоля і забрала з поля адзінокую ледзь жывую дзяўчынку...

...толькі мы самі—долі сваёй кавалі!

(*Якуб Колас*).

III.

Над збавеньнем сваім Марылька ня раз мазгавала. Ведала яна, што на сьвеце жыць—гаравацъ. Так заўсёды настаўляла ёй Антоля. Антоля сама змалку ня ведала прасьветлай хвіліны. З сямі год аддалі яе ў наймічкі да дробных паноў-фальварнікаў. У іх і гадавалася Антоля, загартоўвалася ў голадзе ды ў холадзе. Можа гэткае грубое, дзікае жыцьцё вечнай паднявольніцы і вызначыла цьвёрдыя, нячулыя да гора другіх рысы яе характару. Але яна выхоўвала з Марылькі такую-ж Антолю. Інакш яна і не магла гадаваць дзяўчынку. Пра ўсё гэта Марылька ведала, добра ведала. Кожны дзень амаль дзяўбла ёй Антоля пра тое, якой яна была і як трэба жыць на сьвеце. Толькі ня зусім згаджалася з яе думкамі і жыцьцём Марылька, бо ведала яна і тое, што жывуць людзі лепш: лягчэй працуюць, смачней ядуць, харашэй ходзяць. З часам, убіраючыся ў розум, пазнавала дзяўчына, што ўсё гэта хлусьня, аб чым навучае яе Антоля. Усё гэта толькі для задаваленьня капрызу яе, скупасьці і дзікасьці, памешанай на кубелках і торбачках бабы. Пра гэта Марылька ці раз чула і ад суседзяў.

Тады надумалася яна збавіцца ад такога жыцьця, хоць трохі аблягчыць яго. Горш усяго надакучылі дзяўчыне поўныя жаху ночы, калі яны цягаліся куды-небудзь красьці. У галаве малой склаўся рызыкоўны, але прывабны плян. З кожным днём гэты плян высьпяваў, праясьняўся і Марылька ўсё больш захаплялася ім.

Ды вось усё нязручна і немагчыма было ёй выканаць задуманы ўчынак.

Ужо неяк пад восень здарылася гэта. Марылька пачула кароценькую гаворку Антолі з мужам. Было якраз пасьля сьнеданьня. Марылька прывяла з пашы каня. Пасьнедала і прылягла. Задрамала. Але ў гэты час прахапілася ад гаворкі. Гаварыў муж Антолі Сымон:—Няхай мо' пойдзе к кавалю з нарогам, каб падгастрыў.

— Дзе ты бачыў, — адказвае Антоля,—схадзі лепш сам.

— Чаму гэта самому? Высьпіцца, нідзе дзенецца,—нездаволена скрывіўся Сымон.

— Сёньня пойдзем з ёй па агуркі ў саўхоз. Няма-ж завошта купіць...

Мужык не пярэчыў. Да гэтага ён даўно прывык.

А калі толькі кабета з Сымонам выбраліся на поле, Марылька кумілём кінулася бегчы ў саўхоз. Што будзе, то й будзе. Хіба яна ня хоча жыць, як і ўсе людзі. Так-жа не пражывеш век. Надакучыла, нэндза сушыць, сумна ад такога жыцьця. Бяжыць дарогай і разважае сама з сабою дзяўчына.

— Куды ты?—пытаюцца кабеты, што ішлі з мястэчка.

— Солі купіць паслалі...—адказвае яна.

— Цябе-ж там зарэжуць на мацу гандляры,—жартуюць бабы і йдуць сабе далей.

Да саўхозу было недалёка. І не аглянулася Марылька, як ужо й саўхоз. Тут зусім ня тое, што ў вёсцы. Каменныя будынкі, вялізныя ўсё. Агарод з добры палетак. На двары—машыны: касаркі, жняяркі стаяць.

Пацікавілася, паўзіралася Марылька на ўсё гэта. Яна ўпяршыню тут. Саўхоз, праўда, знаходзіцца пры гасьцінцы, і яна здалёк бачыла яго колькі раз, але так зблізку, на самым двары, ня была.

Сэрца скаланулася—вось-вось вырвецца, калі падышла да ганку. А можа й дрэнна ўсё выйдзе? Што тады рабіць? Тады лепш у рэчку боўтнуцца, бо ўсё жыцьцё спаганяць будзе...

Калоцячыся, увайшла ў белы дом. А праз колькі хвілін, з зачырванелым тварам, выскачыла і борзьдзенька пабегла дахаты.

*(Канец будзе).*





*На здымку зьверху дзіця багатага кітайца (мандарына), унізе—дзіця кітайца—рабочага.*



# ЛЕНІН І ЮНЫЯ ЛЕНІНЦЫ



Калі дарослыя пішуць пра Леніна і пра дзяцей, дык яны часта ўжываюць такі сказ: „Дзядуля Ленін“.

І перад нашымі вачыма чамусьці ўсплывае такі малюнак: сядзіць стары добры дзядуля. Ён у цёплым кажусе. На галаве ў яго—калматая дзядоўская кучма, наўкола яго—дзетвара. Ён іх гладзіць па галоўцы, ён ім казкі апавядае.

Ці-ж такі сапраўды Ленін?

Не.

Ці падобны ён на дзядулю?

Не.

Якім-жа сапраўды зьяўляецца таварыш Ленін. Юным ленінцам патрэбна ведаць тав. Леніна. З Леніным зьвязаны яны наймацнейшымі вузламі. Ім Ленін даў сваё імя. Іх назваў ён юнымі ленінцамі. Ім даручыў ён, калі яны вырастуць, закончыць тое, чаго не пасьпеў ён зрабіць сам.

Вось чаму дзецям трэба добра ведаць і разумець Леніна.

Якім-жа прадстаўляюць сабе дзеці Леніна?

У сваіх артыкулах пра Леніна, у лістох і вершах, прысьвечаных яму, дзеці малююць Уладзімера Ільліча такім чынам:

„Памёр чалавек, які ахвяраваў усё сваё жыцьцё працоўнаму народу, здабываючы яму волю“.

„Памёр Ленін—найвялікшы ў гісторыі гэні“.

„Людзі страцілі таго, хто ўмеў думаць за ўсіх, хто стварыў новы век“.

„Ленін—сьмелы, бадзёры, кемлівы, разумны. Ленін настойлівы. Ленін рабіў тое, што хацеў. Да таго-ж Ленін быў самы гэніяльны чалавек, ён меў вялікую здольнасьць наперад ведаць тое, што будзе з пролетарыятам“.

„Раней, калі ён жыў, я быў упэўнены, што калі нямецкая рэволюцыя ня ўдасца, то буржуазныя краіны пойдуць на Расію, дык Ільліч хворы ўстане з пасьцелі і будзе змагацца да апошняй каплі крыві. Вось як, думаў я, аддасьць сваё жыцьцё Ільліч рэволюцыі“.

„Ільліч разумеў політычную работу. Ён пачаў упарта і беззваротна весьці політычнае змаганьне“.

„Уладзімер Ільліч шмат вучыўся, параўноўваў, вылічваў, даводзіў, як лепш змагацца супроць капіталістых і памешчыкаў усіх краін“.

„Ленін прыяжджаў к рабочым і сялянам і даваў ім парады, як будаваць сваё жыцьцё“.

„Ленін прыехаў у Расію кіраваць рэволюцыяй“.

„Таварыш Ленін, седзячы ў шалашы, пісаў лісты аб рэволюцыі. А калі адбываліся паседжаньні савету рабочых дэпутатаў, дык ён кіраваў імі з свайго шалаша, нібы старшыня, што сядзіць на сходзе“.

„Ільліч усё жыцьцё змагаўся з буржуазіяй за рабочых. Буржуазія за гэта яго саджала ў турмы, высылала туды, дзе холадна, але Ільліч усё цярпеў і заўсёды казаў рабочым, каб яны гуртаваліся і разам змагаліся супроць буржуазіі“.



*Спальня Леніна ў Горках.*

Леніна чакалі ў адным дзіцячым доме. Дзеці вядуць гаворку паміж сабою:

— Я баюся, што ён будзе гаварыць так, што мы нічога не зразумеем.

— Ды не, па-мойму, ён будзе гаварыць проста.

Потым дзеці пішуць пра Леніна:

„Ён рабочых навучыў і яны будуць рабіць так, як ён вучыў“.

„Ленін быў разумны чалавек. Ён увёў Савецкую Уладу“.

„Ленін навучыў рабочых моцна трымаць уладу ў сваіх руках“.

„Хоць ён не адзін быў, але ўсё-ж ён першы“.

„Леніна ніхто не заменіць“.

Татарскія дзеці кажуць пра Леніна: — вялікі галава — Ленін, разумны галава. Ленін усім волю даў. Бацька кажа:—вучыся, будзеш разумным, як Ленін.

А вось гутарка дзяцей пра Леніна.

Гаворыць дзяўчынка, Зоя Вязава, 5-ці год.

— Ён бедным памагаў.

Другая:

— Ён хацеў, каб рабочым добра жылося.

— Ён гаварыў, каб людзі ня біліся паміж сабой.

— Ён зьбіраў рабочых у гурткі.

— У Леніна хата была маленькая, ён дыктаваў законы.

— Калі Леніна брат хацеў забіць цара, Ленін сказаў: заб'еш— усё роўна другога выберуць. Трэба скінуць увесь урад, які абараняе буржуазную клясу.

— За некалькі год наперад Ленін ведаў, што будзе. Ён разумны быў. Ён казаў: будзе барацьба—і гэта праўда.

— Ленін — настаўнік комуністычнай партыі.

— Ленін казаў: трэба жыць організавана.

— Гэрой Ленін! Ты зрабіў рэволюцыю, давучыў нас розуму, і памёр.

Адзін хлопчык піша: „Што я ведаю пра Леніна: Ленін працаваў яшчэ ў царскія часы, ён хаваўся ў сена і ў падвалы і там зьбіраў рабочых. Ён казаў: „ня хлеба трэба прасіць у цара, а нам трэба з аружжам у руках выходзіць супроць цара“.

Хлопчык так апісвае прамову Леніна: „Уладзімер Ільліч гава-

рыў з запалам. Сярод натоўпу было чутно, як муха праляціць. Ніхто не шавяліўся. Усе стаялі, як скамянелыя. Я сам нібы зьледзянеў. Таварыш Ленін гаварыў супроць буржуазіі і даводзіў, што адзіным шляхам да сусьветнай рэволюцыі ёсьць змычка рабочых і сялян".

Гэтак прадстаўляюць сабе дзеці Леніна-рэволюцыянэра.

Ён—настаўнік. Ён—барацьбіт. Ён—правадыр усяго сьвету.

А вось як абмалёўваюць дзеці Леніна—прыхільніка і сябра дзяцей.

Дзеці, якія ведалі яго, малююць яго вясёлым, жыцьцярадасным чалавекам.

„Ён любіў шахматную гульню".

„Ільліч катаўся на лісапэдзе і на каньках".

„Ён бегаў навыперадкі: калі бег, дык напруджваў усе сілы, каб толькі выперадзіць і не астацца апошнім".

„Ленін плавае, як мячык".

„Ленін заўсёды сьмяецца. І вочы ў яго пры гэтым робяцца вузенькімі, вузенькімі".

„Ленін зусім просты чалавек. І твар у яго просты".

„Ленін добры, ласкавы, ён любіць дурэць, як дзеці".

„Ён ніколі не сядзіць бяз працы".

„Ленін гуляе ў „салкі".

„Ленін—наш таварыш".

Гэткім уяўляюць сабе Леніна дзеці. У іх вачох ён—гэрой, вясёлы, як дзеці, і зусім не падобны на старога, на дзядулю.

Чаму-ж любіў Ільліч дзяцей?

„Таму, што сярод дзяцей ён знаходзіў лепшы адпачынак",—піша тав. Троцкі.

Не, ня толькі таму любіў Ільліч дзяцей.

Яны для яго такія дарагія, такія блізкія таму, што ў дзецях Уладзімер Ільліч бачыў будучыну—будучых комунараў.

Таварыш Ленін, гуляючы з дзецьмі, ведае, што гэтыя малышы—будучыя рэволюцыянэры.

Уладзімер Ільліч падараваў хлопчыку Робі чырвоную йстужачку і сказаў яму:

„Вось табе чырвоная йстужка. Зрабі сабе сьцяг і будзь добрым комунарам".

Для т. Леніна дзеці—радасьць жыцьця, бо ў іх будучына.

Ленін сабе не ўяўляе будучых дзяцей не комуністамі. Вось чаму ён так цікавіцца тым, як вучаць і як выхоўваюць дзяцей.



*Любімая лаўка Ул. І. Леніна ў Горках.*

Школа павінна падрыхтаваць новых барацьбітоў за комунізм. І пытаньню аб школе аддае Ільліч сваю ўвагу.

Ён кажа моладзі:

— Каб перамагчы ў барацьбе з буржуазным грамадзтвам, трэба пабудаваць новае грамадзтва, трэба вучыцца, вучыцца і вучыцца.

На III зьезьдзе комсамолу тав. Ленін кажа моладзі:

— Вы павінны пабудаваць комуністычную грамадзкасьць. Першая палова работы ў многіх адносінах зроблена. Старое разбурана, бо яго і трэба было разбурыць. Яно прадстаўляе з сябе груды разваліны, як і трэба было яго перавярнуць у груды разваліны. Расчышчана глеба, і на гэтай глебе маладое комуністычнае пакаленьне павінна будаваць комуністычную грамадзкасьць.

Вось чаго чакаў тав. Ленін ад узрастаючага пакаленьня, ад юных ленінцаў.

Тав. Ленін, які аддаў усё сваё жыцьцё рабочай клясе, ведаў, што адзін, без рабочых і сялян, ён ня скіне з сябе ярма капіталу. Ён пачаў клікаць на бой дарослых рабочых і работніц.

І яны за ім пашлі.

Ён іх аб'яднаў пад сьцягам комуністычнай партыі.

За рабочымі адгукнуліся на кліч тав. Леніна сяляне і сялянкі.

За большымі пашла і моладзь. Пашлі юнакі і дзяўчаты. Іх аб'яднаў тав. Ленін у Расійскі Ленінскі Комуністычны Саюз Моладзі.

Да расійскіх рабочых далучыліся рабочыя ўсяго сьвету.

Для іх аб'яднаньня ўтварыў Ленін Комуністычны Інтэрнацыянал.

Але ня скончана яшчэ работа вялікага організатара—Леніна.

Трэба таксама аб'яднаць дзяцей. І іх аб'яднаў ён у дзіцячыя комуністычныя групы.

Ім—дзецям рэволюцыі, будучым комунарам, даў ён сваё імя.

Ленін, разам з рабочаю клясаю, разбурыў стары грамадзкі лад. Юныя ленінцы пабудуюць комуністычнае грамадзтва.

Паміж Леніным і дзецьмі—непарыўная сувязь.

Ніткі, якія зьвязваюць мінулае нашай рэволюцыйнай барацьбы і будучае нашага рэволюцыйнага будаўніцтва, зьвязаны двумя вялікімі пачаткамі:

„Ленін і дзеці".

Ленін пачаў—ленінцы скончаць!

**З. І. Ліліна.**



# Як у нас пачалі ачышчаць насеньне.

Настаўніца прасіла нас прынесьці на заняткі ў клясу па жмені якога-небудзь насеньня. Калі мы прышлі займацца, то ўгледзелі на сваіх століках падрыхтаванымі: пасудзінку з вадой, анучку, гаршок з зямлёю. У вадным гаршку быў пясок, а ў другіх чорная агародная зямля.

На настаўніцкім стале стаяла ў шкляных пасудзінах набрыняўшае ад вады насеньне гароху і фасолі. Мы занялі свае месца. Настаўніца сказала нам, што мы будзем разглядаць, з чаго складаецца насеньне.

Яна нам расказала, з чаго складаецца насеньне, а пасьля расказала, што трэба рабіць з тым насеньнем, якое было прынесена намі.

Нам належала правесьці дзьве работы: наглядаць за ўмовамі, якія патрэбны для прарастаньня насеньня, і за ўмовамі, якія патрэбны для росту расьліны.

— Наглядайце, якія патрэбны ўмовы, каб насеньне магло прарасьці,—сказала нам настаўніца.

Вось мы і парашылі зрабіць вопыты з аўсом.

Насеньне, якое было паложана ў анучку, мы глядзелі штодзённа. Калі анучка высыхала, мы яе палівалі вадою. Скора зярняты добра набрынялі, сталі большымі і мякчэйшымі.

Пасьля лушпіна каля зародку лопнула (у гаросе і вікі), і пачаў расьці зародак. У калівах жыта таксама паказаўся зародак. Перш за ўсё вырасьлі карэнчыкі. Але нам настаўніца сказала, што ня трэба расьціць насеньне ў анучцы. Як толькі карэнчык стане вялічынёю з зерне, насеньне трэба вымаць з анучкі, падлічыць і выкідаць, запісваць у працягу дзесяці дзён у сшытак лік прarosшага насеньня, а пасьля падлічыць, колькі ўсяго прарасло.

— Вось так можна даведацца пра ўсходжасьць насеньня; лік прarosшых зярнят з кожнай сотні і будзе процантам усходжасьці,— сказала нам настаўніца. — Нам трэба ведаць усходжасьць, каб ведаць годнасьць насеньня для пасеву.

Нашы заняткі ў школе падштурхнулі нас на тое, каб пачаць праводзіць работу па сельскай гаспадарцы і ў атрадзе. Мы парашылі працаваць над насеньнем, над тым, як лепш сеяць.

Вясна ў сялян пачынаецца з падрыхтоўкі насеньня для пасеву. У вёсцы толькі і гаварылі аб насеньні: „ці прыдзе насеньне аўса і вікі, ці будуць прадаваць канюшыну“ і г. д. Наш атрад таксама пачаў думаць, што рабіць. Перш за ўсё мы парашылі даведацца, якая ўсходжасьць насеньня ў сваіх бацькаўскіх гаспадарках. Цяпер для нас даведацца пра гэта было ня цяжка. Адлічылі па сто зярнят з кожнай расьліны ў паасобку і палажылі ў мокрую анучку і ў цёплым месцы. Акуратна палівалі вадою. Калі пачалі зьяўляцца адросткі, мы іх лічылі і вымалі з анучкі. Гэта ўсё мы штодзённа запісвалі ў сваім дзеньніку. Калі ў працягу дзесяці дзён зерня не прарастала, мы лічылі яго дрэнным.



Цераз дзесяць дзён мы зрабілі падлік усходжасьці насеньня. Калі работа была скончана, мы склалі табліцы: „Якая ўсходжасьць насеньня ў нашай гаспадарцы“. І вывесілі гэта ў хаце-чытальні з тлумачэньнямі і лёзунгамі. Вось гэтыя лёзунгі: „Чым меншая ўсходжасьць насеньня, тым гусьцей трэба сеяць“. „Ураджай добрым насеньнем узьнімай“.

Хутка ў наша крэдытнае таварыства прышло шмат насеньня. Наш павадыр схадзіў у праўленьне і дагаварыўся з ім, што наш атрад бярэ на сябе абавязак даведацца аб якасьці атрыманага насеньня. Праўленьне згадзілася з намі. Нам было дадзена патроху ўсіх гатункаў насеньня: аўса, вікі, канюшыны і інш.

Мы організавалі масавую праверку насеньня ў школе. Узялі скрынку, паставілі яе на адзін бок, накшталт шапы. У сярэдзіне паставілі густа палічкі. Палічкі умацавалі на цьвікох, так што яны маглі вымацца. Узялі тоўстай паперы, зложанай у 2—3 разы. Паперу разьлінеілі на 100 клетачек алоўкам. У кожную клетачку клалі па аднаму зярняці. Паперу на сподачках клалі на палічкі ў адзін рад. Шмат хто з піонэраў прынёс з сабою, для вызначэньня ўсходжасьці, насеньне ад суседзяў—сялян, а некаторыя сяляне самі прынесьлі да нас насеньне для таго, каб мы сказалі аб яго вартасьці. Справа аказалася вельмі вялікай. Завялі сшытак запісаў.

Хутка ў нашу вёску прыехаў аграном і склікаў сход. Піонэры, асабліва з старэйшых, таксама ўсе пашлі на сход паслухаць, што будзе гаварыць аграном. Ішла гутарка аб падрыхтоўцы насеньня для сяўбы.

Даведаўшыся ад крэдытнага таварыства аб нашай рабоце, як мы дасьледвалі годнасьць насеньня, аграном растлумачыў сялянам, навошта такая работа праводзіцца. Пасьля аграном прапанаваў сялянам палепшыць якасьць насеньня сартаваньнем.

— Вы бачыце, якое ў вас насеньне дрэннае; вы ім пасееце, а вырасьце многа дзікіх расьлін. Я вам прывёз сарціроўку, прапусьцеце цераз яе ваша насеньне.

Сяляне згадзіліся і пачалася работа.

Лепшай з сарціровак лічыцца сарціроўка „Трыумф“. Яна і была прывезена. Сяляне пашлі за насеньнем, а мы з аграномам пачалі наладжваць сарціроўку. Мы, вядома, хутка пазнаёміліся з сарціроўкай і вельмі ахвотна пачалі дапамагаць. Хто круціў ручку сарціроўкі, хто дапамагаў сялянам насыпаць насеньне, хто вёў запіс.

Аграном прабыў з намі дзьве гадзіны, а потым паехаў, пакінуўшы на нас работу з сарціроўкай і абяцаўшы прыехаць на другі дзень, каб прагледзець работу і ўзяць сарціроўку ў другую вёску. На другі дзень мы здалі аграному сарціроўкі і сшытак, дзе было запісана, колькі чаго было прапушчана праз машыну.

**В. Г.**



# У падзямельным лесе.

*(Працяг).*

— Пара і абедаць,—сказаў я.

Мы паселі на беразе возера, ля вялікай вапнянай калёны, якая была ўпрыгожана каменнымі кветкамі і розэткамі. Запалілі невялікі ліхтарык і пачалі закусваць. Усе былі ў вельмі добрым настроі.

У пячэры стаяла амаль поўная цішыня. Толькі дзесьці здалёк раздаваўся глухі шорах ад падаючых капель. Тэмпэратура паветра была каля 10° Цэльсія.

Паабедаўшы, мы распрасьцерлі нашу лодку і спусьцілі яе на ваду. Наша лодка, альбо, як мы яе называлі, „канэ", магла падняць толькі двух чалавек, і дзеля гэтага адзін з нас, Гоцье, астаўся на беразе, а я і Арманд накіраваліся ў нязвычайнае плаваньне па падзямельнаму возеру. Ліхтар, умацаваны наперадзе лодкі, цьмяна асьвятляў нам дарогу.

Мы плылі па возеры хвілін пяць. Вагенчык на беразе доўгі час сьвяціўся сярод цемры, а потым ён зьнік.

— Давай патушым на хвілінку ліхтар,—сказаў мне Арманд,—паглядзім, што ўяўляе з сябе „абсалютная" цемра.

— Ну, што-ж, тушы,—сказаў я.

Арманд узяў ліхтар і патушыў сьвечку. Мы апынуліся, сапраўды, сярод „абсалютнай" цемры. Цёмныя васеньнія ночы здаюцца сьветлым днём у параўнаньні з тэй цемраю, сярод якой апынуліся мы. Гэты было нешта страшнае. Ні сьвету, ні гуку. Як быццам увесь сьвет перастаў існаваць. Зусім ня верылася, што на вышыні 300 мэтраў над намі сьвеціць гарачае чэрвеньскае сонца і распрасьціраецца сіняе неба з лёгкімі хмаркамі... Раптам страшэнная думка, як маланка, закружылася і прамільгнула ў маёй галаве.

— Што мы зрабілі!—закрычаў я ад страху.

— Што?—запытаў Арманд.

— А што, калі нашы запалкі адсырэлі! У мяне адзеньне вільготнае, і я баюся, што запалкі ў тваёй кішэні адсырэлі і запаліць іх нельга будзе,— што мы будзем рабіць?

— Зараз паглядзім,—прагаварыў спакойна Арманд.

Я з трывогай на сэрцы прыслухоўваўся ў цемры, як Арманд палез у кішэню па запалкі, як ён выняў адну і чыркнуў. Запалка загарэлася, я ўздыхнуў радасна.

— Палі скарэй сьвечку. Ды глядзі, ня ўпусьці запалкі,—хваляваўся я.

— Ня турбуйся,—працадзіў скрозь зубы Арманд.

Мы праплылі яшчэ некалькі хвілін.

Гэтыя хвіліны нам здаваліся вечнасьцю. У цемры, якая абхінала нас, часу як-быццам не існавала зусім.

Час-ад-часу я вымяраў возера. Глыбіня была невялікая. Раптам мы заўважылі ў возеры плынь. Праплыўшы яшчэ некалькі дзесяткаў мэтраў, мы пачулі з правага боку аддалены шум.

— Гэта павінен быць вадаспад,—сказаў Арманд.



*Перад нашымі вачыма на момант паказалася ўся прыгожасьць малюнку.*

Плынь станавілася ўсё больш прыкметнай. Сапраўды, мяркуючы па шуме, наперадзе ў нас быў, мусіць, вадаспад, які спадаў у новае, больш глыбокае бяздоньне.

— Арманд, — крыкнуў я,—далей плыць страшнавата. Можна папасьці ў вялікую плынь і ня справіцца з ёю. Гэта плынь можа аднесьці нас у бяздоньне—мы загінем...

— Ну, што-ж, паедзем назад,—прагаварыў Арманд.

І Арманд павярнуў лодку. Неўзабаве шум вадаспаду замоўк,—мы паплылі зноў сярод поўнай цішыні.

Раптам перад намі, амаль ля самага носу лодкі, вырас лес сталагмітаў. Высокія, стройныя калёны ўзвышаліся проста над вадой, за перцымі шэрагамі цясьніліся новыя, белыя калёны і губляліся ў цемры.

У адным месцы калёны ўтварылі як-бы ўваход у цёмную будыніну... Мы хацелі былі вылезьці на бераг і прайсьці хоць некалькі мэтраў сярод каменных палацаў. Але, на жаль, бераг крута ўзьнімаўся над вадой, і ня было ніякай магчымасьці ўспаўзьці на яго.

Я падрыхтаваў фото-апарат і насыпаў трохі магнію на скамейку лодкі.

Калі магній успыхнуў і ярка асьвяціў цемру, перад нашымі вачыма на момант паказалася ўся прыгожасьць малюнку. Цёмнае возера, абкружанае дзіўным лесам каменных дрэў, а зьверху столь, з якой спускаюцца бязьлікія розныя сталакціты. Але чароўны малюнак цягнуўся вельмі нядоўга. Праз міг мы зноў былі сярод цемры, і сьвечка ў ліхтарыку асьвятляла толькі невялічкую прастору наперадзе ад нас...

— Трэба варочацца,—сказаў Арманд,—паглядзі колькі часу.

Я выняў гадзіньнік. Было ўжо 6 гадзін. Мы абодва вельмі зьдзівіліся,—зноў так борзда праляцелі чатыры гадзіны.

Арманд павярнуў лодку, і мы ціха паплылі ўздоўж сталагмітавага лесу. Праз поўгадзіны мы заўважылі здалёк мігаценьне агню, а яшчэ праз некалькі хвілін мы былі ўжо на месцы нашай стаянкі.

Гоцье спаткаў нас са злосьцю:

— Я думаў, што вы ўтапіліся,—крычаў ён,— што гэта вы так доўга разгульвалі. Пакінулі мяне аднаго, сьвіньні!..

— Хадзем далей,—перарваў наша маўчаньне Арманд.—Далей яшчэ будзе цікавей.




„Вялікому каню—вялікі хамут“.

*Народная прымаўка*

Меў нейкі селянін мізэрнага каня—
З сабаку можа так, мо‘ з добрае шчаня.
Маломy велiччу быць хочацца заўсёды,—
У нашай мацеры-прыроды
Такі спрадвеку ўжо закон.
Так вось і гэты конь...
Яно ня ганьба хоць—сабе дабра жадаць,
Але ў каня ўжо, як відаць,
Жаданьне ў манію вялічча перайшло.
І стаў ён скардзіцца на ўсё сяло:
І „і-га-га!“, і „і-го-го!“—
Хамут нібы не да яго.
— Я сам,—іржэ,—такі каніска,
А вось хамут, дык жарабячы блізка,—
Не засупоніўшы і то ён нават цесны:
Ні ўлезьці мне ў яго, ні вылезьці, хоць трэсьні.
У горад селянін прыехаў на кірмаш.
І вось убачыў тут асілак наш,
Што грузныя ламавікі
Пудоў па сто вязуць мукі.
— Ну, вось цяпер ці бачыш ты,—
Пытае ён гаспадара,—
Якія ў коняй хамуты?
Табе-б купіць даўно пара
Хоць трошкі большы для мяне,
І я-б за іх цягнуў туды ўдвайне,—
Ня сто пудоў, а цэлых дзьвесьце.
Тут, каб каню свайму давесьці,
Што гэта глупства і мана,
Каб выгнаць, зноў-жа, наравы
З дурной канёвай галавы,
Той гаспадар і просіць хурмана,
Каб ён у воз вялікі свой запрог яго каняку.
Хурман гатоў за пэўную падзяку,—
Асілак наш ужо ў вялікім хамуце.
Ахвоты той хамут хоць шмат яму паддаў,
Але тут здарыўся скандал:
Пралезьлі праз хамут канёвы персі й ногі
І затрымаўся ён аж ледзь на жываце,
А тут яшчэ праклятый воз
І з месца не скрануць—як да зямлі прырос.
І просіць у бядзе наш дурань дапамогі.
З тае пары другога хамута
Ня просіць конь ніколі болей:
Свайго яму якраз цяпер даволі,—
Хамут стаў—проста любата!

* * *

Каму хамут ня мал і не вялік,
Дык той ня йдзе ў такіх „асілкаў“ лік,
А зрэшты, каб не пазьдзіралі,
Пакіну байку без моралі.

**Крапіва.**

---

Мы прайшлі сталагмітавы лес і падышлі да вузкага праходу.

— Тут уваход у другую пячэру,—заявіў Арманд,—другая пячэра ляжыць на 60 мэтраў ніжэй, чым першая, і там мы ўбачым сталакціты яшчэ прыгажэйшыя.

З гэтымі словамі Арманд нурцануў у цемру, і мы ледзь пасьпявалі за ім.

— Тут трэба будзе спускацца па вяроўцы,—сказаў Арманд, калі мы, нарэшце, дагналі яго.—Спуск вельмі круты і абрывісты і, апрача таго, вільготны і сьлізкі.

Мы закруцілі вяроўку за тоўсты сталагміт, і Арманд першы пачаў спускацца. Пасьля таго, калі ён спусьціўся, мы спусьцілі яму нашу лодку, а потым спусьціліся і самі.

Ніжняя пячэра ляжала на глыбіні 250 мэтраў. Яна была яшчэ больш прыгажэйшай. Полымя ад нашых сьвечак не дасягала да столі, адкуль спускаліся шматлікія сталакціты. У пячэры гучна разносіўся спад вадзяных капель з вышыні, і паветра было напоўнена вільгацьцю.

— Зараз мы падыйдзем да возера,—заўважыў Арманд.

Праз некалькі хвілін хады па сьлізкай падлозе пячэры мы былі на беразе падзямельнага возера. Яго цёмная гладзь, не ўзварушаная ні адзіным подыхам ветру, рабіла нейкае жахлівае ўражаньне. Мы зьмерылі глыбіню каля берагу. Глыбіня месцамі дасягала аднаго мэтру, а ў іншых мясцох была меншай.

Паабедаўшы і выпіўшы па шклянцы халоднай гарбаты, мы парашылі пераначаваць у пячэры, каб назаўтра працягнуць нашы досьледы. Яшчэ пры спуску ў пячэру мы папярэдзілі нашых праваднікоў, што калі ўвечары не паднімемся, дык гэта азначае, што мы асталіся начаваць у пячэры.

Хоць і было яшчэ толькі 8 гадзін вечару, але мы ўсе трое расьцягнуліся на каменнай падлозе. Усе былі вельмі зморany ад нязвычайных уражаньняў, перажываньняў. Арманд патушыў сьвечку, і мы асталіся ў поўнай цемры.

Ня гледзячы на зморанасьць, ніводзін з нас ня мог заснуць. Нязвычайная начоўка ў нетрах зямлі, сярод волацкага каменнага лесу, усё гэта кружылася ў думках.

— А раптам зьверху на нас упадзе якая-небудзь каменная сасулька вагою ў тону ці больш, — пачуўся сярод цемры голас Гоцье.

— Ня бойся, не ўпадзе, яны моцна зьліты,—адказаў Арманд,—не перашкаджай спаць.

— Неўзабаве сярод цемры пачулася хрыпеньне Арманда, заглушаючы трывожныя ўздыханьні Гоцье. А я яшчэ доўгі час ня мог сплюшчыць вачэй.

Ня помню, як я заснуў на сваім жорсткім ложку, але прачнуўся я ад болю. Усё маё цела ад ляжаньня на халоднай каменнай падлозе ныла. Я сеў, дастаў з кішэні гадзіньнік і запалкі. Чыркнуў, запаліў сьвечку. Было яшчэ толькі чатыры гадзіны раніцы. Але ці сапраўды-ж раніцы? Наўкола стаяла такая-ж жудасная чорная цемра.

Сьвятло разбудзіла Арманда і Гоцье.

У 12 гадзін мы пачалі зьбірацца наверх.



**Э. Мартэль.**




ГУМАРЫСТЫЧНАЯ
ГАЗЭТА ПІОНЭРАЎ
№ 2.

# ЛІСТЫ-ПЯКУЧКІ ВОЖЫКА-КАЛЮЧКІ.

Ну, і актыўным зрабіўся наш Вожык, такога і пахваліць можна: без спазьненьня, у кожны нумар шле і сатыру і гумар. Аб'ягжджае атрады і школы скора: сёньня тут, а дзесьці далёка быў учора. Сочыць ён за парадкамі ў атрадах і школах. А такі ён старанны, вясёлы, ды аб гэтым вы знаеце самі. Выкладаць сёньня прад намі Вожык будзе цікавыя тэмы. Прачытайце ўважліва ўсе вы. І яшчэ зьвяртаецца Вожык з павагай: ячэйкі, зьвярнеце ўвагу!

## А на справе?..

Комсамольскай ячэйцы, вёскі Матарова, прысьвячаю.

*Вожык.*

Выпадкова ўчора заехаў у Матарова да знаёмага сябра Алеся. Там агледзеў парадкі і—ад зьдзіўленьня затросься ўвесь я! (Ну і бяда-ж, але ня кінуўся ў плач я). Паглядзеў я і ня верыцца неяк. Вось дык парадак, вось дык лад—„добры прыклад" для многіх ячэек. Вёска там—больш за сотню двароў, ячэйка ўжо досыць старая (можна думаць: ну і працуюць-жа там!), а сапраўды, дык справа другая. У вёсцы ёсьць і атрад. У клюб прыдзі—піонэры навокал. Комсамол даў ім павадыра. Даў, а сам, да сягоньняга збоку... Толькі скажа ячэйка пра іх: „Вось дык зьмена! Расьце і квітнее!" А каб выпісаць кніжак якіх—дык ня тое: шкада грошай неяк...

І расьце сіратою атрад, а ячэйка як быццам ня чуе. Хлопец кніжку пачытаць быў-бы рад, але гэтага зрабіць не пашанцуе. Пры атрадзе і шэфа няма, ні капейкі грошай ня маецца. А ячэйцы, дык што—ёй дарма, што атрад з кожным днём раскідаецца. Нават п'есу паставіць калі з комсамольцаў ніхто не паможа. А жадаюць яшчэ, каб цьвілі!

Шлю вымову ячэйцы я—Вожык. Гаварыць і рабіць—не адно. Праца падае ў гразь проста ніцма. Тут патрэбна (кажу ўсё адно) дапамога і кіраўніцтва.

## Тварам да вёскі.

Пра гэты лёзунг гаварылі ня раз, прыходзіцца яго і тут успомніць якраз. Во каленкавіцкія піонэры маюць вельмі дрэнныя манеры,—заяўляюць некаторыя з жарам: ня хочам стаць да вёскі



тварам. (Я дзіўлюся, што там за атрады?!). Аб гэтым сьведчыць наступны выпадак.

Адзін піонэр вясковы ў марозны дзень зімовы ў Каленкавічы хадзіў купіць газы.

Як прышоў, дык зьдзівіўся адразу: з гарадзкімі піонэрамі спаткаўся—пасяброўску з імі прывітаўся, а тыя-ж у адказ як сказалі, дык у вясковага піонэра ажно вушы зьвялі. Такія засыпалі славечкі: ты бо—вясковая авечка, варона, галавацяп, дурны...

Вось яны, дык яны! А яшчэ піонэрамі называюцца, і гэтак агідна лаюцца, што цяпер сам ні свой той піонэр вясковы (зразумела, я тут прывёў далікатнейшыя словы).

Дрэнна, што Калінкавіцкая ячэйка на гэту справу пазірае спакойна неяк. Трэба такія настроі зьнішчаць, трэба атрадам дапамагаць перавыхоўваць хлапчукоў такіх хвацкіх, бо вясковыя піонэры ў горад хадзіць будуць баяцца.

## Зладзеі.

Прачытаўшы загаловак, вы будзеце ня рады: разьвяліся, скажаце, канакрады, бяды наробяць нямала, скажаце бацьку каб рабіў мацнейшыя завалы. І тое, і другое. Але я вас крыху супакою. Гэта зладзеі другія, але і ў іх рукі даўгія, вядома, зладзейскай масьці,—яны навучыліся кнігі ў школе красьці...

Гэта ў Круглянскай школе Лапікаў Базыль, Лапікаў Ляксей, Лапікаў Мікола, Дарашкевіч—усе гэтыя сябрукі цягнуць школьныя кнігі, абы толькі з рукі.

Адзін раз у зімовы вечар, прыгожы такі, гэтыя хлопцы паламалі замкі, улезьлі ў шафу школьную і тут-жа пачалі працу свавольную. Пазабіралі ўсю паперу, накралі кніг бяз меры, частку ў падпечак схавалі, а то з сабою пабралі, а дома бацьком лгалі, што гэта ў школе ім за пасьпяховасьць і прыкладнасьць далі. Кожны рад і бяз меры вясёлы: знай, бо, Круглянская школа, будзеш доўга ты помніць нас!..

Але праз некаторы час настаўнік гэта ўбачыў і да Базыля:

— Ты ўзяў, няйначай! Той, як заяц, спужаўся і аб усім прызнаўся. Настаўнік пакруціў галавою, палаяўся і—толькі тых мераў. Добра-б было організаваць там атрад піонэраў, каб з хулі-



ганствам такім змагацца. Ячэйка, пацікаўся гэтаю працай.

* * *

Далёка ня ўсе бакі жыцьця тут ахоплены, для мяне яшчэ шмат працы. Высьвятляў дрэнныя бакі, буду так і ў далейшым. Яшчэ прашу шчыра: ячэйкі комсамолу, зьвярнеце ўвагу на сваю зьмену.

# ТЭАТР

Янка Кашкель

Гэзін Э.

## АСВАЛЬД

**П'еса з жыцьця і змаганьня нямецкіх піонэраў.**

**Асноўны зьмест п'есы пабудаваны на сапраўдным факце, пра які ў свой час паведамлялася ў піонэрскіх газэтах. П'еса перакладзена з яўрэйскай мовы.**

Прымаюць удзел:

1. АСВАЛЬД—нямецкі піонэр.
2. РУДОЛЬФ—яго таварыш.
3. ФОН-ЛЮЦЫ—настаўнік.
4. ЭЛЬЗА КАРЛАЎНА—настаўніца.
5. „ДЗЯДЗЬКА ВІЛЬЛІ"—сторож школы.
6. Два полісмэны.
7. АСКАР—вучань, сын багатага.
8. БАЦЬКА Асвальда.
9. МАТКА Асвальда.
10. СЮЗАНКА—сястра Асвальда.
11. Піонэры і вучні.

### Першая дзея.

(Дзея адбываецца ў нямецкай школе. Сцэна прадстаўляе з сябе клясу перад пачаткам уроку. Бегатня. Шум. Асвальд, абкружаны таварышамі, малюе на дошцы карыкатуру на настаўніка. Весёлы сьмех. Неўспадзеўкі чуецца званок).

Вучань (убягаючы ў клясу). Цішэй... Стары гусак плыве. (Усе сьпяшаюцца садзіцца на свае месцы. У клясу ўваходзіць дробнымі шагамі настаўнік Фон-Люцы).

Фон-Люцы. Садзецеся! (Усе садзяцца. Фон-Люцы выклікае па дзеньніку).

Бартэль Рыхард?

— Тут!

— Вадзікс Ганс?

— Я!

— Рэйсман Гэрта?

— Тут!

— Розэнбэрг Карл?

— Я!

— Пэтэрзон Гэнрых?

— Тут!

— Шміт Гэнрыета?

— Я!

— Крыгман Аскар?

— Тут, гаспадзін настаўнік!

— Эйдэльман Рудольф?

— Тут.

Фон-Люцы. Ну-с-с-с, дзеці, сёньня будзе пісьмовая праца на тэму... э-э...э... тэму кожны выбера. Так, так кожны з вас сам знойдзе тэму. Не сьпяшайцеся, абмяркуйце і потым пішэце. І так, выньце свае сшыткі... э-э...

Вучань. Гаспадзін настаўнік!

Фон-Люцы. Э... што хацеў сказаць?

Вучань. Я ня ведаю аб чым пісаць.

Фон-Люцы. Галаву маеш на плячох, а ня ведаеш... я-ж ясна сказаў: э...э... што можна пісаць пра усё, што хочаш, у-с-ё ш-т-о х-о-ч-а-ш... Напрыклад э-э... аб прыродзе, пра жыцьцё гораду, альбо э-э... як вы правялі канікулы. Не сьпяшайцеся, абдумайце, а потым пішэце э...э...э... (Пауза. Вучні пішуць. Настаўнік пахаджвае з важным задаволеным выглядам па клясе ўзад і ўперад, круціць свае вусікі).

Аскар. Скончыў... Скончыў, гаспадзін настаўнік.

Фон-Люцы. Добра. Падай свой сшытак. (Аскар падае сшытак і садзіцца. Фон-Люцы чытае паціху апошнія радкі чытае голасна).

Фон-Люцы... З таго часу Плутон стаў нашым любімым сабачкам. Добра! Вельмі добра! (Аддае сшытак Аскару і падыходзіць да Асвальда). Асвальд, ты, здаецца, скончыў. Падай сваю працу, пачытаем э-э... (Асвальд падае сшытак).

Фон-Люцы (глядзіць у сшытак. Ніжняя губа ў яго адвісае. Ён папраўляе акуляры і чытает голасна). Жыцьцё дзяцей у нас і ў вольным Савецкім э... Саюзе э... (Чытае рась-цягнутымі літарамі). Што такое? Пра бальшавікоў... бунт! бунт у школе?! У



*Што такое?*

мяне на ўроку хуліганствам займацца, га? Зараз-жа к дырэктару... выключаць... э... выключыць цябе трэба за такія жарты. Ах ты сабака гэткі! (Падбягае к Асвальду, рве сшытак на кавалачкі і хватае яго за вуха). Зараз-жа пішы другую працу, зразумеў? „Прырода ўвосень"... Так... так... „Прырода ўвосень"... Чуеш? э-э...

Асвальд. Я ня буду пісаць другі раз, гаспадзін настаўнік. Вы самі сказалі, што можна пісаць пра ўсё, што хочаш.

Галасы. Правільна! Правільна, казалі так!

Фон-Люцы. Цыц! э-э... я вас ня пытаю, дурні. (Зьвяртаецца да Асвальда). Ты ня будзеш пісаць? я пытаю... э-э... будзеш пісаць? (Хватае яго за каўнер, цягне на сярэдзіну клясы і пачынае біць). Ня будзеш? э... э... Дык ведай-жа, дурніца, як ня слухацца!..

Галасы. Не чапайце яго! Пакіньце! Годзі! (Узьнімаецца моцны шум. Крык вучняў).

Фон-Люцы (усё яшчэ лупіць Асвальда). Ня будзеш???

Асвальд. Не! не!!!

Галасы. Даволі! Годзе зьдзеквацца з яго!

Фон-Люцы (страшна раззлаваны). К дырэктару! (Выбягае). Выключыць яго, нягодніка!!! (Асвальд сядзіць зьбіты на падлозе, яго абкружаюць вучні).

Асвальд (паграажаючы кулаком у бок дзьвярэй) Не дарую яму!

Крыкі. Скора і нас пачне так біць! Стары чорт! з розуму зьехаў!

Асвальд. Усіх не асіліць! Прэч яго такога настаўніка! (Узьнімаецца шум, крык).

Заслона.

### Другая дзея.

(Сцэна прадстаўляе школьны калідор у час перапынку).

Асвальд (абкружаны групай таварышоў). Так вось і будзем рабіць! (Зьяўляецца настаўніца Эльза Карлаўна. Строга глядзіць на Асвальда).

Настаўніца. Асвальд, ты ўсе яшчэ не супакоіўся? Ах, божа мой, на чым усё гэта скончыцца. Дзеці, разыдзецеся, ня слухайце яго, ідзеце лепш пагуляць.

Асвальд. Наша гульня толькі што пачынаецца. (Эльза Карлаўна паціскае плячыма і выходзіць).

1-ы вучань. Ха-ха-ха! Знайшла каго вучыць!

2-гі вучань. На губах у яе ня мова, а „мёд"... горкі.

Рудольф. Ведаеце, яна ўчора адабрала ў мяне піонэрскую газэтку „Ді Тромэль" і кажа мне (перадражнівае). Ах, божа мой, як вам ня сорам, чым вы займаецеся? А я ёй—пачытайце, кажу, Эльза Карлаўна, цікавая газэтка! (Агульны смех).

Асвальд. Ведаеце што, таварышы, давайце пагуляем у „бітыя бутэлькі".

Галасы. Верна! Верна! Давайце!

(Ставяць палена дроў, зьверху—бутэлька. Удзельніку завязваюць вочы. Ён павінен адыйсьціся на пэўную адлегласьць і потым папасьці чым-небудзь у бутэльку. Гуляюць некалькі разоў. Чарга даходзіць да Асвальда. Неўспадзеўкі з другога канца ўваходзіць Эльза Карлаўна і хоча схапіць бутэльку. У гэты час Асвальд пападае палкай у руку настаўніцы).

Настаўніца. Ой! Ой! Божа мой. (Трасе руку ад болі і падскаквае). Уф... уф... ф... Колькі раз я вам казала, што ня можна гуляць у такія паганыя гульні. Вы забываецеся, дзе вы знаходзіцеся.

Рудольф. Трэба-ж у што-небудзь гуляць.

Настаўніца. Калі хочаце гуляць, дык вазьмецеся за рукі... вось так... (бярэ дваіх за рукі і пачынае песьню).

У цёмным лесе
Жыла фэя.
Жыць ёй добра.
Сонца грэе...

(Ніхто не памагае ёй. Яна спыняецца сьпяваць і шырока расстаўляе зьдзіўленыя вочы—чаму-ж ёй не памаглі сьпяваць? Дзеці адварачваюцца ад яе. Яна злуе і борзда выходзіць).

Рудольф. Абрыдзелі нам фэі гэтыя...

Асвальд. Карагоды... ды карагоды... эх... (аглядваецца). Нікога няма? Таварышы, заўтра ў 9 гадзін вечара зьбірацца ў школе, зразумелі?

Вучань. Як гэта ў школу?

Асвальд. Я знаю што кажу: зьбірацца паціху па некалькі чалавек у садзе, што супроць школы. (Званок. Усе бягуць у клясы).

(З-за заслоны паказваецца Аскар, які там схаваўся і падслухваў пра ўсё).

Аскар. Сход у школе, ага?

Заслона.

## Трэцяя дзея.

(Сцэна—клясны пакой. Стораж падмятае падлогу).

Стораж. Цалюткі дзень на нагах... Падмятай, падчышчай... Сабачае жыцьцё. А заўтра, заўтра што будзе? Чуў я, нібы дырэктар звольніць мяне хоча... Стары я, не патрэбен ім. Куды мне цяпер ісьці на старасьць? А ўжо-ж дваццаць год тут падмятаю, галаву схіляю перад дырэктарам.

(Стук у дзьверы. Стораж прыслухоўваецца).

Стораж. Хто-ж гэта так позна стукаецца, га?

(Адчыняе дзьверы. Уваходзіць Асвальд і яшчэ некалькі таварышоў).

Асвальд. Добры вечар, дзядзька Вільлі!

Стораж. Добры вечар. Чаго вы тут лазіце так позна?

Асвальд. Нам дырэктар дазволіў тут сабрацца. Скора ўся кляса прыдзе. Будзем кніжку чытаць—эх, і цікавая-ж кніжка!

Стораж. Ну, што-ж, мне ня шкода. Калі дазволіў дырэктар... Толькі, глядзеце, падлогі ня брудзіць. Цяжка мне на старасьць падмятаць. Цяпер ня тое, што некалі... Эх, што было некалі... (Задумваецца).

Асвальд. Ведаем, дзядзька Вільлі, ведаем, што табе цяжка. Дзядзька Вільлі, ты такі добры і справядлівы.

Стораж (усё яшчэ мяце). Справядлівы, кажаш? Так... той, хто ведае пра цяжкую працу, той любіць справядлівасьць, але вам яшчэ рана ведаць пра такія рэчы...

Асвальд. Дарэмна, дзядзька Вільлі, ты так гаворыш. Нашы бацькі таксама ведаюць, якая горкая гэта цяжкая праца... Але ўсё-ж будзе некалі ўсяму гэтаму канец...

Стораж. Што ты хочаш гэтым сказаць?

Асвальд. Няўжо вы не разумееце?

Стораж (стукае па плячы Асвальда). Малы, а разважае, як вялікі, люблю такіх.

Асвальд. Дзядзька Вільлі!..

Стораж. Што?

Асвальд. Што, калі-б...

Стораж. Кажы, што ты хочаш.

Асвальд. Паслухай, дзядзька Вільлі, калі-б мы цябе абманулі, ты-б на нас вельмі ўзлаваўся?

Стораж. Падмануць, кажаш? Не разумею, навошта-ж гэта?

Асвальд. Што... калі дырэктар не дазволіў сюды сабрацца, ты на нас паскардзішся?

Стораж. Не дазволіў, кажаш? Гэта горш... (пауза). А ўрэшце хай будзе так, бачу я, што вы добрыя дзеці. А язык за зубамі трымаць умееце?

Асвальд. А як-жа!

Стораж. Дык добра. Толькі трымайце сябе цішэй. Вы добрыя дзеці. Некалі і ў мяне былі дзеці...

Асвальд. А цяпер?

Стораж. Цяпер іх няма ўжо...

Асвальд. Чаму? Раскажы нам пра іх, дзядзька Вільлі!

Вучні. Раскажэце!

(Стукаюцца ў дзьверы. Заходзяць іншыя вучні).

Асвальд (да стоража). Нашы!

Стораж. А больш ніхто ня прыдзе?

Асвальд. Не.

Стораж. Прычынеце тады дзьверы. (Асвальд прычыняе дзьверы).

Вучні. Раскажы нам, дзядзька Вільлі, пра сваіх дзяцей.

Стораж. Я вам, дзеці, у другі раз раскажу.

Вучні. Не, цяпер. Цяпер, дзядзька Вільлі!

Стораж. Цяпер, кажаце? Так і быць, садзецеся, я вам раскажу. Але ведайце, гэта вельмі сумная гісторыя, дзеці.

(Стораж садзіцца, яго цесна абкружаюць дзеці і слухаюць з захапленьнем).

Стораж. Дык вось, дзеці... было ў мяне два сына. Аднаго звалі—Адольф, а другога—Карл. Адольф быў яшчэ зусім маладым, 18 год, жыцьцё яшчэ біла ў ім крыніцай. А Карл—той старэйшы быў на 3 гады, але таксама з гарачым характарам, статны хлапчына, на заводзе працаваў. Так вось жылі ўсе разам і бяды ніякай ня ведалі. Але тут раптам вайна пачалася. Гэта было ў 1914 г. Куды вам памятаць... І вось разгарэлася гэта самая вайна крывавым полымем. На поле бойкі вышлі сотні тысяч людзей і шчапіліся як зьвяры. Цаною крыві і трупаў вырашалася спрэчка між царамі. Моладзь у першую чаргу пасылалася на франты. І вось мой сын таксама пашоў на вайну... Я, стары дурань, радаваўся, што сын ідзе бараніць бацькаўшчыну... бацькаўшчыну



*Сход у школе, ага?*

(задумваецца). Ды вось паехаў ён. Цяжка было, час, эх, цяжкі быў. Голад... гора... Радасна было тады, калі ад сына лісты атрымліваў. Колькі гадзін, памятаю, праседжваў ля вакна і ўсё чакаў паштальёна з лістамі! Але вось аднойчы атрымліваю ліст з фронту, напісаны таварышам сына. З дрыжачымі рукамі выняў яго, сэрца падказала... сына ужо ня было ў жывых...

Усе. Забіты??? (Пауза).

Стораж. Забіты... Разарваны знарадам... Жыцьцё маё сталася тады нікчэмным і, здавалася, яно нікому стала непатрэбным. Нідзе не знаходзіў радасьці я. Колькі сьлёз праліў тады я... эх... Усё маё бацькаўскае каханьне перайшло тады



*Ты ўсё яшчэ не супакоіўся?*

к другому сыну, Карлу. Але не давялося мне доўга радавацца ім. Аднаго разу забаставалі рабочыя тае фабрыкі, дзе ён працаваў. Карл, як потым я даведаўся, уваходзіў у забастовачны камітэт. Мне ён не гаварыў пра такія рэчы. І вось пачалася ў іх доўгая барацьба. Рабочыя хоць і галадавалі, але папусканца гаспадару фабрыкі не хацелі. Тады паліцыя арыштавала забастовачны камітэт і абвінавaціла яго ў дзяржаўнай здрадзе за тое, што гэтай забастоўкай яны тармозяць разьвіцьцё прамысловасьці ў дзяржаве. А так як тады быў ваенны час, іх чакала лютая кара. Аднойчы ўночы яны парашылі ўцячы з турмы...

Усе. І ўцяклі???

Стораж. Дзе там... Мой сын і яшчэ двое былі забіты...

Усе. Забіты??? (Пауза).

Стораж (сам пра сябе). Навошта гавару ім усё гэта? Старыя раны... А вы чаго галовы апусьцілі? Вы яшчэ маладыя, усё жыцьцё наперадзе. Вам радавацца трэба, а не сумаваць. Ня турбуйцеся.

Асвальд. Ня так, дзядзька Вільлі, мы павінны турбавацца, бо ў нас ёсьць нямала такіх, як твае сыны...

Рудольф. Усе пра іх, колькі крыві праліта.

Асвальд. Кроў—не вада, так скора ня змыецца.

Стораж. Не гаварэце, дзеткі, лішняга, лепш работу пачынайце, я вось тут пасяджу, мне з вамі неяк весялей, лепш.

1-ы вучань. Добра, добра, дзядзька Вільлі, аставайцеся з намі.

2-гі вучань. Зараз табарэтку знойдзем табе. (Падносіць яму табарэтку).

Стораж. Дзякую, дзеткі.

Асвальд. А вы, таварышы, сюды, к сталу, пара пачаць, не забудзьцеся, дзе мы знаходзімся. (Усе садзяцца).

Асвальд. Таварышы, вы бачылі, як за апошні час настаўнікі ўзяліся... (Чуваць крокі за дзьвярыма. Усе спалохаліся).

Асвальд. Ціха! Я чытаю казку. (Дастае з кішэні кніжку і чытае голасна). Сядзіць лісіца і думае, як ёй выскачыць з калодзезя. Ідзе казёл... (На сцэну ўваходзяць два палісмэны, яны аглядваюць падазрона ўсіх).

Палісмэн (да стоража). Што тут робіць гэтая дзетвара?

Сторож (прытвараючыся глухаватым). Што вы пытаеце, ваша правасхадзіцельства? Тут школа, мусіць, вы памылкова сюды трапілі.

Палісмэн. Ведаю я, што школа, стары дурань. Што тут робіць дзетвара гэтак позна, пытаю я.

Сторож. Ах, дзетвара? Казачкі чытаюць, ваша правасхадзіцельства. Эдуард Эдмундавіч дазволіў ім.

Палісмэн. Які Эдуард?

Сторож. Дырэктар школы, ваша правасхадзіцельства. Ён прасіў толькі, каб я наглядаў за імі: дурасьліўцы яны ў нас вялікія. Як толькі адвернешся, адразу скакаць пачнуць праз парты, ламаць, а потым мне адказвай. Вось таму і сяджу цяпер з імі. Прыгожыя казачкі яны чытаюць, ваша правасхадзіцельства. А каторая гэта гадзіна, ваша правасхадзіцельства?

Палісмэн. Дз-е-с-я-т-а-я...

Сторож. Дзеці, ці ня пара-б дамоў.

Усе. Не! не! Мы павінны да канца прачытаць казку. Зараз кончым. Чытай, Асвальд.

Асвальд. Дык слухайце (пачынае чытаць) ... Ліс іца зарадвалася і кажа: казёл, казёл, хадзі сюды! (Паліцэйскія глядзяць, як мыла зьеўшы, і выходзяць).

Сторож. Ціха... (Глядзіць у вакно. Пауза). Ха-ха-ха!.. Ня дрэнна мы іх кругом пальца абвялі. Вялікія дурні яны...

Рудольф. Вось дык штуку выкінулі! (Усе абкружаюць стоража).

Асвальд. Дзядзька Вільлі, ніколі я не спадзяваўся, каб ты іх так абдурыў. Ад начлегу ў паліцыі выратаваў нас усіх.

Рудольф. Няхай жыве дзядзька Вільлі.

Асвальд. Давайце яго пакачаем. Няхай памятае пра нас!

Усе. Ура! Ура! (Качаюць стоража, шумяць).

Заслона.

## Чацьвертая дзея.

(Сцэна тая-ж, што і ў другой дзеі).

Аскар (уваходзіць з групай таварышоў, падскаквае ад радасьці). Там-да-дарам... Там-да-рам... Казаў я вам, што яго выключаць. (Есьць піражнае, аблізваючы пальцы). Выключыць-бы яшчэ некалькі такіх і ўсё было-б спакойна, як вы думаеце, хлопцы?

1-шы яго таварыш. Нічога, дабяруцца і да іх.

Аскар. Там-да-там. Там-ба-да-рам. (Есьць і падскаквае).

2-гі таварыш. Яны вельмі галовы падня лі!

Аскар. Не турбуйцеся! Мы іх апусьцім. (Аглядваецца). Таварышы, Эдуард Эдмундавіч прасіў, каб мы сачылі за імі і калі што—к яму! Ён прасіў даведацца, хто прыносіць і пашырае ў школе „Ді Тромэль". Як толькі што заўважыце, адразу перадайце мне, а я Эдуард Эдмундавічу. Ах, як ён будзе радавацца! Там-тада-рам. Там-та-да-рам.

3-ці таварыш. Трэба цяпер асьцерагацца іх, яны вельмі злыя, што Асвальда выключылі з школы. У іх вочы гараць нібы ў ваўкоў якіх.

Аскар. Ты глядзі, каб яны табе не насыпалі за гэта... Мне здаецца, яны ведаюць...

Аскар. Няхай толькі паважацца. Мой тата ім так дасьць, што горка стане... Майго бацькі нават усе вялікія й старыя баяцца, праўду кажу. Эх, і ня любіць-жа мой тата камуністых. Усіх, кажа, перавешаў-бы сваімі ўласнымі рукамі. Ён кажа, што калі я падрасту, дазволіць мне фашыстым стаць.

4-ты таварыш. А я даўно ужо надумаўся фашыстым стаць. Эх, адзену я чорны гарнітур, на грудзёх белы значок, а ў кішэні блікучы, блікучы рэвольвэр...

2-гі таварыш. Так бо цябе і пусьцяць туды. У іх без паролю такога ніколі ў жыцьці ня пройдзеш. Калі ведаеш такое пэўнае слова—прапусьцяць, а не—сьмерць на месцы.

4-ты таварыш. Праўда?

2-гі таварыш. А ты што думаў?

Аскар. Ведаеце што, сябры, прыходзьце да мяне ў нядзелю, пагуляем у нашым садзе ў фашыстыя. А я буду атаманам.

4-ты таварыш. Хіба-ж у іх ёсьць атаман?

Аскар. А як-жа, ёсьць атаман, а ў кожнага атамана па два памоцнікі ёсьць.

1-шы таварыш. А я на гэтых днях чуў, як фашыстыя на дэмонстрацыі песьню прыгожую сьпявалі.

Аскар. А ну засьпявай!

1-шы таварыш. Магу. (Сьпявае).

Мы фашысты, мы фашысты,
Мы прагонім камуністых!
Раз, два, тры, чатыры...

(У гэты час з другога боку зьяўляецца Рудольф з групай таварышоў. Аскар і яго таварышы выходзяць, угледзеўшы іх).

Рудольф (лічыць па пальцах). Раз, два, тры, чатыры... пяць, шэсьць, сем, восем. Восем дзён засталося да 1-га мая. Трэба шпарчэй рыхтавацца, работы ў школе хоць разарвіся. Вось у мінулым



*Нам дырэктар дазволіў тут сабрацца.*

годзе добра адсьвяткавалі. Хоць і пакрычалі потым настаўнікі. Але нічога. Яны з кожным годам усё больш будуць злавацца. Мы ім сёлета таксама табакі ў нос падсыплем. Мы ім пакажам, што юныя піонэры ўмеюць арганізавана сьвяткаваць. Шкада, сябры, што Асвальда няма. Эх, і не хацеў-жа ён, бедны, з школай разьвітвацца. Я з ім учора доўга гутарыў. Ён цяпер думае на фабрыку падацца. А скора і ў комсамол уступлю, кажа.

1-шы таварыш. Добрым комсамольцам будзе Асвальд.

Рудольф. Ён прасіў перадаць вам усім, што ён—з намі, ён будзе заўсёды памагаць нам. Толькі мы, кажа ён, не павінны папускацца настаўнікам. Чым больш мы будзем гнуць галовы перад імі, тым горш для нас будзе.

3-ці таварыш. Пэўна-ж так.

Рудольф. А яшчэ, сябры, сказаў ён, што мы павінны добра паказаць тым, хто на нас даносіць. (Ціха). Ён думае, што гэта Аскар нагаварыў дырэктару...

1-шы таварыш. Ня інача. Ён садзіць свой нос, куды ня трэба.

Рудольф. Мы яго адвучым, добра?

1-шы таварыш. Добра. І чым барджэй, тым лепш.

Рудольф. Сябры, вы бачылі астатні нумар „Ді Тромэля"?

Усе. Не! Не! Пакажы! (Рудольф дастае з-за пазухі і паказвае).

Рудольф. А я думаю напісаць пра выключэньне Асвальда ў газэту. Няхай усе ведаюць, як зьдзекуюцца настаўнікі з пролетарскіх дзяцей.

1-шы таварыш. Вось гэта здарова! Прабяры іх усіх, каб ім аж моташна стала!

Рудольф. Калі надрукуюць, я ў той-жа дзень разашлю газэту настаўнікам, няхай пазлуюць!

1-шы таварыш. Маладзец! Здорава прыдумаў, Рудольф (Усе разглядваюць газэту. У гэты час крадком падыходзіць Аскар і хоча заглянуць у газэту).

Рудольф (заўважыў). Трымайце яго, сябры! (Усе кідаюцца, хватаюць Аскара) Будзеш брахаць на нас? (Чувацъ галасы). Хто удаў Асвальда, га?

Аскар. Не-е-е я-я...

Рудольф. Вось табе ўзнагарода. (Б'е Аскара па шчацы).

Аскар. Ай... Ай... больш ня буду... Ай... б'юць... Эльза Карлаўна!..

2-гі таварыш. Будзеш брахаць? (Б'е таксама).

1-шы таварыш. Ідуць! (Усе разьбягаюцца).

Аскар. Ай... Забілі... Баліць... (Уваходзіць Эльза Карлаўна).

Настаўніца. Ах, божа мой, што тут было? Дзе яны?

Аскар. Ай... ай... бок...

Наст. Божа мой, што за дзеці... (Падымае Аскара, трымае. Аскар ледзь стаіць, трымаецца за бок).

Аскар. Я... тату... скажу... тату... (Выходзяць. Зьяўляецца Рудольф і таварышы яго).

Рудольф (падскаквае на аднэй назе і дражніць Аскара). Т-а-а-т-у-у ска-а-ж-у-у. Кажы хоць чорту. Нябось, даслужыўся гэтага. Нас не шкадаваў...

1-шы таварыш. Нас, мусіць, выклічуць...

Рудольф. І няхай выклікаюць, толькі трымайце сябе як трэба.

2-гі таварыш. Бацьку Аскара ўсе баяцца, хаця-б нас з школы ня выключылі.

Рудольф. Б-а-я-ц-ц-а. І няхай сабе баяцца. А нас яны ня выключаць, ня бойцеся. Трэцюю частку школы ня выключаць! Мы яшчэ паглядзім!!! (Званок).

Заслона.

## Пятая дзея.

(Сцэнка прадстаўляе пакой у рабочай сям'і, у Асвальда на кватэры. На падлозе разложаны плякаты і лёзунгі. Асвальд і таварышы малююць. Матка Асвальда сядзіць ля вакна і шые).

Рудольф (малюе і гаворыць). Кажуць сёньня незвычайная дэмонстрацыя будзе!

Асвальд. Я думаю. Паглядзеў-бы ты, што ў рабочых раёнах робіцца. Яшчэ ўчора сьцягі вывесілі. Паліцыя і група фашыстых хацелі сарваць.

Рудольф. І што-ж?

Асвальд. Іх закідалі каменьнямі.

Рудольф. Сабак ня так яшчэ трэба было адганяць.

Асвальд. Нічога, і ад каменя можа памякчэць тупая галава.

Матка. Вось дык разышоўся. Можа й ты так будзеш рабіць?

Асвальд. Калі трэба будзе...

Матка. Маўчаў-бы лепш, з школы-ж выключылі ўжо... Бяз цябе толк будзе надэмонстрацыі. Увесь у бацьку пашоў.

Сюзанка (падыходзіць к Асвальду). Асвальд, вазьмі мяне з сабою на дэмонстрацыю!

# АБ УСІМ ПАТРОХУ.

### Самы вялікі ліст.

Гэты „самы вялікі ліст“ расьце на востраве Суматры (галяндзкая калёнія), які ляжыць на экватары. Яго велічыня: 260 см. вышыня і 170 см. шырыня. Але гэта яшчэ ня „самы вялікі ліст“. Некаторыя дасягаюць у вышыню трох мэтраў і ў шырыню двух мэтраў.



### Як адбылася аварыя „Советского Севера“.

Увосень мінулага году ўздоўж ўсяго ўзьбярэжжа Паўночнага Ледавітага акіяну быў накіраваны самалёт „Советский Север“. Ля Калючынскай губы з ім здарылася аварыя. Прычынаю аварыі зьяўляюцца няспрыяючыя надворныя ўмовы. Дзякуючы аварыі, пералёт быў спынены. Аб гэтай няўдачнай экспэдыцыі зараз атрыманы цікавыя весткі. Экспэдыцыя зьнялася з поўвострава 19 жніўня і накіравалася спачатку ўздоўж берагу, каб потым накіравацца на выспу Ўрангеля. Неўзабаве самалёт папаў у паласу туману і быў прымушаны стаць на якар. Увечары ўзьнялася бура і самалёт чуць утрымаўся на двух якарох. Сілаю ветра быў папсуты руль і крыльлі. 22 жніўня вецер выкінуў самалёт на бераг з вельмі сур'ёзнымі паломкамі: лопнулі бакі з бэнзынам і лодка пачала цячы.

„Можаце сабе ўявіць, — кажа начальнік экспэдыцыі, тав. Красінскі, — якім сур'ёзным было наша становішча. Мы знаходзіліся далёка ад жылья, куды мы маглі папасьці толькі на самалёце, але ён быў зусім папсуты. Захапіўшы ўвесь невялічкі запас прадуктаў (харчы было ня больш, як на 4 дні), мы ўначы накіраваліся ў напрамку к берагу Ледавітага акіяну. Прыходзілася йсьці ўвесь час праз гразкую балотную тундру па вадзе. На наступны дзень мы падыйшлі к першаму чукоцкаму жыльлю. З вялікімі цяжкасьцямі, пехатою, на байдарках і сабах члены экспэдыцыі дайшлі да бухты Лаўрэнція і адтуль на параходзе „Стаўрополь“ пакінулі поўнач.

### Бабры ў СССР.

Здаецца, адзіным месцам, дзе яшчэ засталіся ў Эўропе бабры, зьяўляецца Гомельшчына. Каштоўны сваім пушністым мехам грызун, які некалі вадзіўся ў Эўропе, зараз амаль што ўсюды зьнікае.

Гомельскае таварыства краязнаўства занялося вывучэньнем бабровай калёніі, якая знаходзіцца каля вёскі Шэпатовічы і пасёлку Востраў.

Бабровае жыльлё знаходзіцца па рацэ Сож і часткова па раце Ліпа, дзе ёсьць жыльлё вялічынёю з вялікі стог сена. Гэта жыльлё пабудавана з гліны і вады. Там жыве ня менш пяці сямей чорных баброў. Большасьць баброў жыве ў норах, якія выкапаны ў барагох вазёр. У гэтым раёне, па прыблізнаму падліку, на прасторы ў 6 кілёмэтраў жыве ня менш 40 сем'яў баброў.



*Шляпа, якая служыць нэгру (Афрыка) адначасова і „галаўным убёрам“, і парасонам, і страхою для цэлай гандлёвай лаўкі.*

---

Асвальд. Вазьму.

Сюзанка. Ты маніш?

Асвальд. Вось дык прычапілася. Раз сказаў, што вазьму. Схадзі лепш вады прынясі, чым так бяз толку блытацца.

Сюзанка (выбягае). Зараз-жа.

Асвальд. На дэманстрацыю ёй захацелася, яна думае, што там толькі песьні сьпяваюць...

Рудольф. Сюзанка разумная дзяўчынка, дарэмна ты злуеш на яе.

Сюзанка (нясе ваду). На.

Асвальд. А цяпер бяжы пагуляй дзе.

Сюзанка. Добра. (Выбягае).

Рудольф (падымаючы плякат з падлогі). Добры плякат, га?

2-гі таварыш (чытае). Няхай жыве 1-ае мая!

Асвальд. А паглядзеце, якая цікавая карыкатура вышла. (Падымае малюнак, на якім намаляваны настаўнік верхам на вучню. Унізе подпіс—„Вось як нас навучаюць у школе“.

Рудольф. Усё роўна, як наш Фон-Люцы!

Асвальд. Ён бо больш усяго ўеўся мне ў памяць. (Усе разглядаюць карыкатуру).

Асвальд. Давайце, сябры, хутчэй канчаць, бо зараз можа скончыцца дэманстрацыя. (Малююць. Пауза).

(За дзьвярыма чуваць шагі. Уваходзіць бацька Асвальда).

Бацька. Сапраўдны штаб. Ну, ну, рыхтуйцеся. Але будзьце асьцярожнымі. Сёньня будзе надзвычайная дэманстрацыя. Могуць быць сур'ёзныя сутычкі...

Матка. Я-б яго зусім ня пусьціла. Ці мала што можа здарыцца.

Бацька. Ты ўжо зноў сваё. Пад фартухом будзеш яго трымаць ці што? Ня ён адзін там будзе.

Асвальд. Тысячы дзяцей будуць на дэманстрацыі.

Бацька. Нашы зьбіраюцца раней. Мне іс{ьц}і ўжо трэба. Ёсьць важныя справы.

Матка. Пасядзеў-бы хоць трохі дома, ніколі і ня стыкаешся нават.

Бацька. Я даў слова прыйсьці. Ну, а вы (кажа хлопцам) сьпяшайцеся, бо дэманстрацыя зараз пачнецца.

Асвальд. Мы пасьпеем, не прапусьцім.

Бацька. Бывайце, хлопцы.(Выходзіць)

Усе. Шчасьлівай дарогі!

Рудольф. Гатова!

Асвальд. І я канчаю. (Устаюць, трымаюць плякаты ў руках).

Асвальд. Станавіся. (Усе становяцца ў рад).

Асвальд. Да змаганьня за справу працоўных будзьце гатовы!

Усе. Заўжды гатовы! (За сцэнай чутны песьні дэманстрантаў).

Асвальд. Пашлі! Раз, два, тры!

(Заслона. Чуваць выкрыкі „Няхай жыве 1-ае мая!“).

(Канец).





ЦАНА 12 кап.




## № 1. ЗАДАЧКА.

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| 1 | 3 | 2 | 1 | 2 | 1 |
| 5 | 1 | 1 | 2 | 5 | 5 |
| 1 | 3 | 3 | 1 | 1 | 1 |
| 3 | 3 | 1 | 1 | 2 | 1 |
| 1 | 1 | 2 | 1 | 1 | 1 |
| 2 | 2 | 3 | 5 | 5 | 2 |

У клетках гэтага квадрата разложаны паштовыя маркі па 1, 2, 3, 5 кап. Трэба разрезаць квадрат на 4 роўныя часткі, каб у кожнай было марак на адну і тую-ж суму грошай.

## № 2. РЭБУС.



## № 3. ЛАНЦУЖОК З СКЛАДОЎ.

Заместа рысак дадаць патрэбныя склады, каб можна было прачытаць 7 слоў, якія сваімі складамі будуць злучацца накшталт вак—гі (заместа рыскі паставіць склад „но“ і атрымаем два новых словы).



## № 4. ШТО Ў ВАС ПЕРАД ВАЧЫМА?

Дадаць патрэбныя літары, каб можна было прачытаць, зьлева направа, 3 словы, а ў напрамку лічбаў 1—2, 3—4 (зьверху ўніз) два словы, якія азначаюць тое, што ў вас перад вачыма.



## „ЖЫВОЕ ЯЙЦО“.

*(Фокус).*

Патрэбныя для фокуса абставіны: стол, рояль ці другі які-небудзь інструмант.

Прылады: „чароўная палачка“—драўляная палачка з мезянец таўшчынёй, 30 см. даўжыні, афарбаваная ў які-небудзь цёмны колер.

„Жывое яйцо“ падрыхтоўваецца такім чынам: у звычайным курыным яйцы пракруцеце з канцоў дзьве маленькія дзіркі і праз іх выдзьміце бялок і жаўток. Калі яйцо высахне, адну дзіру заляпеце белым воскам, а ў другую дзірку ўваткнеце кавалак запалкі, за сярэдзіну якой прывяжаце чорную нітку ці цёмны волас мэтрам даўжыні. Запалку пастаўце ўпоперак у яйцы, нацягнеце нітку і замацуйце яе ў дзірцы воскам.

*Фокус*. Вы абвяшчаеце публіцы, што пакажаце ёй цікавае жывое яйцо. Выходзіце са сцэны, бярыце „чароўную палачку“, „жывое яйцо“. Вольны канец ніткі прывязваеце да грудзей.—Вось гэта, таварышы, самае звычайнае курынае яйцо, якое зараз будзе рабіць тое, што я захачу, будзе слухацца мае палачкі. Я хачу прымусіць яго паскакаць.

Вы просіце музыканта сыграць вам які-небудзь танец. Потым кладзіце яйцо на стол і ў такт музыкі махаце сваёй палачкай такім чынам, каб палачка ўвесь час знаходзілася пад ніткай і нацягвала яе. Тады яйцо, падцягваемае ніткай, будзе слухацца вас і „скакаць“.

— Гэта цудоўнае яйцо можа скакаць ня толькі на роўным месцы.

Вы падцягваеце яйцо да самай палачкі і можаце прымусіць яго скакаць на самай палачцы. Яйцо будзе скакаць на вашай руцэ, на плячы—дзе вы хочаце, трэба толькі адпаведным чынам накіроўваць узмахі палачкі, не выпускаючы яе з-пад ніткі.

## КАТОРАЕ ВЯДРО ПЕРАЦЯГНЕ?

Перад вамі два роўных вядры, напоўненыя да краёў вадою. У адным з вёдзер плавае палена. Якое вядро будзе цяжэйшае: з паленам ці без палена?

## ЗАДАЧА-ЖАРТ.

Дадзены рак і палова мухі; як трэба палажыць іх, каб вышла частка будынку?





Якая лінія злучаная кружочкамі даўжэйшая: тая, што зьлева, ці тая, што справа?

Рэдколегія: Баліцкі А., Брыгневіч Г., Пякарчык А., Сьцяпанаў, Якімовіч А.

Адказны рэдактар А. Пякарчык.

Друкарня „БДВ“. У ліку 1650 экз. Заказ № 1328. Галоўлітбел № 663.